# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 12 (630) ГОД XIII 24 САКАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

10-га сакавіка адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення прысвечанае рэалізацыі пастаноў V-га з'езда і пленумаў ГП БГКТ. На гэтую тэму чытаў даклад сакратар Уладзімір Юзвюк.

— У нашых пастановах, — гаварыў ён між іншым, — асноўнае месца займае група пастаноў доўгатэрміновых. Да іх таксама належыць разбудова арганізацыі. За 1967 год прыбыло нам усяго 594 члены. Разбудовай арганізацыі ў аддзелах цікавіцца з актыву 1—2 асобы і штатныя працаўнікі ГП. Падобнае становішча і з аплочваннем складчын. Гэтая пастанова рэалізуецца вельмі слаба, так што на VI з'езд БГКТ можам мы прыйсці нават са зменшаным лікам членаў.

Адна з пастаноў гаворыць аб большай самастойнасці аддзелаў і ўвядзенні імі новых форм працы. На рэалізацыю такіх пастулатаў умовы існуюць. Кожны аддзел можа эксперыментаваць у рамах статута БГКТ. Запрашаць актыў суседніх аддзелаў на свае пасяджэнні на кошт БГКТ і сам можа браць удзел у іх працах дзеля абмену вопытам. Нельга даць аддзелам большай фінансавай самастойнасці, таму што пры аддзелах трэба было б утварыць бухгалтэрыі і самастойныя бюджэты, на што мы не маем магчымасці і не існуюць на гэта ўнутраныя патрэбы.

Пастанова аб павелічэнні перадач па радыёвузлах з 15 да 30 мінут не вырашылася. Лік радыёгутарак сістэматычна памяншаецца. Калі ў 1966 годзе прачытана іх 210, то ў 1967 годзе — толькі 60. Часу ў радыёвузлах нам ніхто не агранічвае.

Пастанова аб забеспячэнні беларускіх школ падручнікамі і іншымі дапаможнікамі на беларускай мове з пачатку новага навучальнага года будзе ўжо ўладжана. Да канца гэтага года ўсе падручнікі беларускай мовы ад V—VIII класаў знойдуцца ў руках вучняў.

Захады ў справе пабудовы школьнага будынка для ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы былі роблены, аднак інвестыцыя гэта незалежна ад інтэрвенцыі ліцэяў і бацькоўскага камітэта не ўвайшла ў гэты 5-гадовы план. Таму пастанова гэта павінна рэалізавацца ў наступнай кадэнцыі.

Пастанова адносна адкрыцця завочнага аддзялення беларускай мовы пры існуючай кафедры Варшаўскага універсітэта здавалася, што была вырашана. Меў арганізавацца кансультацыйны пункт у Беластоку. Але ў тым жа часе пачало ставіцца ваяводскімі ўладамі пытанне арганізавання філіі Варшаўскага універсітэта ў нашым горадзе і з ім пачало звязвацца адкрыццё ўспомненага кансультацыйнага пункта беларускай мовы. Усё прадбачана на 1970 год.

Пастанова аб павелічэнні ліку курсаў асветы дарослых вырашаецца БГКТ вельмі слаба. Пытанні гэтыя і на Прэзідыуме ГП і на пасяджэннях аддзелаў разглядаюцца рэдка, а рэзультаты ў арганізаванні іх не могуць нас задаволіць.

Пастановы аб пераўтварэнні навуковага гуртка ў навуковае аб'яднанне і ўтварэнне ў ГП выдавецкага аддзела рэалізаваць нельга, таму што ні фінансаў і штатаў нам не прыбывае, а ад змены назвы становішча не зменіцца.

Адна з пастаноў датычыць павелічэння арганізацыйна-матэрыяльнай дапамогі мастацкаму самадзейнаму руху. Справа тут менш у арганізацыйна-фінансавай падтрымцы, а ў забеспячэнні дапамогі падрыхтоўцы праграмы выступленняў, падборцы рэпертуару, касцюмаў. ГП не мае ніводнага працаўніка, які меў бы інструктарскую падрыхтоўку да вядзення аматарскіх калектываў. Не мае такіх інструктараў ВДК, ПДК і аддзелы культуры.

Пастанова V-га з'езда аб разбудове, або будове новага этнаграфічнага музея ў Белавежы вырашыцца праўдападобна на карысць пачатку будовы новага памяшкання каля паловы 1969 года, калі злакалізуецца яго ў Белавежы і павялічацца датацыі МСВ на дзейнасць таварыства з увагі на магчымасць пераказання належных нам апошніх сум са сплаты маёмасці былых прамыслова-гаспадарчых прадпрыемстваў «Бэтэскі» на камітэт пабудовы музея.

У дыскусіі выступілі: Я. Палоцкі, В. Дзун, К. Масальскі, А. Кунах, Ю. Бусловіч, У. Станкевіч, В. Швед і прадстаўнік КВ ПАРП Я. Зялінскі. Вёў пленум старшыня ГП В. Склубоўскі. (мх)



28 САКАВІКА — 100 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА ГОРКАГА.

Нядаўна Прэзідыум у Бельску на сваім пасяджэнні выслухаў справаздачу з працы бібліятэк у павеце. Мне давялося быць на гэтым пасяджэнні і ў сувязі з тым хацелася б перадаць некалькі сваіх спасцярог і ўваг.




Агульная ацэнка працы бібліятэк станоўчая. Станоўча ацэньвалі працу бельскіх бібліятэк намеснік кіраўніка Аддзела культуры ВРН **Тадэуш Бакун** і прадстаўнік Ваяводскай бібліятэкі **Гелена Стасяк.** Сапраўды, ёсць што хваліць. Не толькі хваліць, але і захапляцца, задумоўвацца. Бельскія бібліятэкі займаюць **пятае** месца ў ваяводстве, а ваяводства ў краіне займае другое месца. Адно мяне, перш за ўсё захапіла і прымусіла задумацца: вясковае насельніцтва налічвае большы працэнт чытачоў — 25,3%, чым, напрыклад, у г. Бельску — 17% (працэнты адносяцца да агульнага ліку насельніцтва). Зрэшты, увогуле амаль чацвёртая частка насельніцтва Бельскага павета з'яўляецца карыстальнікам бібліятэк. Каб дапоўніць гэтыя аптымістычныя лікі, неабходна дадаць, што бібліятэкі Бельшчыны патрапілі заахвоціць да чытання вялікую колькасць моладзі ва ўзросце 15 — 20 год. Працэнтава гэта дае 27,2% агулу чытачоў. І што характэрнае, што-больш менш такі ж узровень маладых чытачоў на вёсцы.

Зразумела, што гэта не прыйшло лёгка. Трэба было шмат намаганняў з боку працаўнікоў павятовай бібліятэкі на чале з яе кіраўніком **Арцёмам Чыквіным.** Чытача можна і трэба заахвоціць

(Працяг на стар. 4)




**Мікола Маляўка**

У дваццаць год мы ўсе пракорі
І самі для сябе не тайна.
Ні ў чым сур'ёзна і глыбока
Не сумняваемся звычайна.
Мы перад мовaю нямеем.
У нас задор, стальныя нервы —
І мы ў дыскусіях
з музеяў
Выносім геніяў шэдэўры.
Макулатура, хлам — і баста!
Аддайце нам вянок лаўровы.
І прымяраем для кантрасту
Мы лаўры на свае галовы.
Праходзіць слепата з узростам.
Мы не бунтуем без карысці.
Знайсці сябе ў жыцці не проста,
Як нам здавалася калісьці.
Мы, як другія, колем дровы,
Працуем без агрэхаў, браку,
І ў перакупшчыц ліст лаўровы
Купляем мы — у боршч, для смаку.

(Маладосць, студзень 1968)

ГАСПАДАРСКІЯ РАЗМОВЫ




Вёскі Чорная Велькая, Чорная Сярэдняя і Чорная Царкоўная астаюцца далёка ад шляхоў журналістаў «Нівы». Магчыма і я туды не завандраваў бы, калі б да тэтага не нагаварылі мяне загадчыкі сельскагаспадарчай прадукцыі Сямяціцкага павета.

— Язджай, брат, у Чорную Велькую, — раіў мне адзін знаёмы з сельскагаспадарчага аддзела. — Там ёсць гаспадар, Прыступай завецца, добры гаспадар, мала такіх у нашым павеце.

Вёска знаходзіцца на пагранічны беларуска-польскіх моўных і этнічных уплываў. Пра «Ніву» і пра Беларускае таварыства мала хто тут чуў.

Але вось сяліба гаспадара Балеслава Прыступы. Прасторны панадворак, пасярэдзіне якога, бліжэй клуні, стаіць манеж. На панадворку ўласны калодзеж з доўгім карытам для вадапою. Будынкі новыя, ужо пасляваенныя, трывалыя, вялікія. Адразу адчуваеш пашану для іх уласніка. Відаць, што жыве ён не з дня на дзень, што сур'ёзна думае пра будучыню сваёй гаспадаркі. Сам Прыступа ўжо стары, пабялелы, як зімовы снег, 68-мігадовы чалавек. Дачакаўся ўжо праўнукаў.

— У павеце мне сказалі, — звяртаюся да яго, — што з вас добры гаспадар.

Прыступа ўсміхаецца.

— Што павінны рабіць іншыя сяляне, каб быць добрымі гаспадарамі?

— Я ж не прарок, каб іншых вучыць. Магу толькі сказаць, што сам я раблю ў сваёй гаспадарцы. Маю хутар, ён вунь там зараз за клуняй, 7 гектараў ворнай зямлі. Дык я гэтыя 7 гектараў разбіў на 7 участкаў. Ужо даўно, яшчэ да вайны. Бо хутары ў нас зрабілі ў 1935 годзе. І дагэтуль паспяхова прымяняю сямігадовы пладазмен. Кожны год сею што іншае на адным з сямі кускоў поля. Калі, скажам, на адным палетку адзін год растуць прапашныя, — бульба, буракі ці бруква — на другі год сею там ярыну, пасля яе два гады расце канюшына, на канюшыніску сею жыта, а затым авёс або ячмень.

— А як з угнаеннем? — пытаю.

— Угнойваю поле так: пад прапашныя даю вельмі багата гною з-пад жывёлы і пасля на працягу сямі год гэты ўчастак поля маёй сяміпалёўкі гною не бачыць. Усё другое падкормліваю штучным угнаеннем.

Тут варта дабавіць, што Балеслаў Прыступа не шкадуе грошай на штучныя ўгнаенні. Кожны год прызначае на іх пакупку каля 8-мі тысяч злотых.

— Аднойчы, — расказвае, — прыйшоў да мяне сусед і пытае: які попел купіць: «чорны» ці «белы»? Гавару яму, што і «чорны» і «белы». А ён: а навошта мне два? Шкада грошай. Вось у тым найгоршая бяда, што многія гаспадары яшчэ не навучыліся ўласціва прымяняць штучныя ўгнаенні.

— А дзе вы вучыліся гэтай штукі?

— У школу хадзіў я ўсяго тры зімы і то яшчэ за цара. Аднак вучыўся сам — з кніжак, з газет і з практыкі. А штучныя ўгнаенні ў сваёй гаспадарцы прымяняў я яшчэ да вайны. Без іх не ўяўляю сабе гаспадарання.

— Дык скажыце, якія ў вас ураджаі?

— Нядрэнныя, хаця хто б у гаспадарцы ўсё гэта пераважваў і пералічваў. Бульба, для прыкладу, дала мне звыш 200 цэнтнераў з гектара, а кармавыя буракі важылі па 6—7 кілаграм адзін.

(Працяг на стар. 4)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЧАМУ РУМЫНЫ НЕ ПАДПІСАЛІ?

У мінулым нумары «Нівы» мы інфармавалі чытачоў аб пасяджэнні Палітычнага кансультацыйнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавору ў Софіі. Гаварылася там між іншым, што Румынія не падпісала заявы ў справе нераспаўсюджвання тэрмаядзернай зброі.

Якія ж румынскія аргументы?

У вялікім скарачэнні можна сказаць наступнае. Румынія хоча, каб дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі быў дасканалы і ў сувязі з тым, што цяперашні праект (прадстаўлены СССР і ЗША), не з'яўляецца дасканалым, не трэба яго падпісваць, але далей дасканаліць. Напрыклад, румыны мяркуюць, што пры аказіі падпісвання дагавору трэба абавязаць «тэрмаядзерныя» дзяржавы абмежаваць прадукцыю і поўнасцю знішчыць тэрмаядзерную зброю. Справа ў тым, што гэтага хочуць усе сацыялістычныя і міралюбівыя краіны, але зараз гэта яшчэ нерэальна, і высоўванне такога праекта яшчэ на далей адсунула б падпісанне праекта дагавору. Практыка паказвае, што ў барацьбе за мірнае суіснаванне трэба выкарыстоўваць розныя моманты. Усе ведалі, што падпісанне Маскоўскага дагавору поўнасцю не вырашала справы, але ў пэўнай меры прычынілася да памяншэння праменявання ў паветры, выкліканага ўзрывамі атомных бомб.

Іншая справа, якую высоўваюць румыны, гэта справа гарантыі. Справу гарантыі высоўвае і польскі ўрад. Розніца ў тым, што румыны прапануюць аднесці справу гарантыі да кожнай «няядзернай» дзяржавы, а польскі ўрад удакладняе гэта, гаворачы, што гэта адносіцца да тых дзяржаў, якія не прадукуюць тэрмаядзернай зброі і якія на сваёй тэрыторыі не маюць складаў гэтай зброі. (Напр. не адносіцца да ФРГ, на тэрыторыі якой ёсць вельмі многа складаў тэрмаядзернай зброі).

Вось у скарачэнні розніца ў гэтай галіне паміж пазіцыяй румынскай дэлегацыі і 6 іншых краін — удзельніц Варшаўскага Дагавору.

### ХТО, ЯК І ЧАМУ

Акруговы пракурор Гарысон заявіў, што ведае, хто забіў прэзідэнта Кенедзі, якім спосабам і чаму. Заявіў ён, што ў загаворы, маючым на мэце забойства Кенедзі, прымала ўдзел 15 асоб і што мачала ў гэтым пальцы амерыканская разведка. Мае ён м. інш. копію аўтэнтычнай дэпешы Освальда да дырэктара разведкі Говера, у якой Освальд паведамляе яго аб падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта Кенедзі.

### У ЧЭХАСЛАВАКІІ...

...Савет Міністраў даў указанні міністру абароны і міністру ўнутраных спраў, каб падрыхтавалі падрабязную справаздачу аб справе генерала **Я. Шэйны,** які ўцёк, маючы дыпламатычны пашпарт, у ЗША і папрасіў там прытанішча.

### ПЛЕНУМ КПЧ

28 сакавіка г.г. адбудзецца чарговы Пленум ЦК Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. Аб патрэбе склікання Пленума выказаліся многія партарганізацыі.

А. К.

## БССР

### БАЛГАРЫІ

Мінск наведала партыйна-урадавая дэлегацыя Народнай Рэспублікі Балгарыі. Дэлегацыю ўзначальваў Данча Дзімітраў — першы намеснік Старшыні Прэзідыума Народнага Сходу Балгарыі.

Балгарскія госці мелі гутарку з кіраўнікамі беларускай кампартыі і ўрада. Затым наведалі яны выдатныя мясціны беларускай сталіцы, усклалі вянок ля помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі.

Пры ўдзеле балгарскіх гасцей адбылася ў Мінску ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 90-годдзю вызвалення Балгарыі ад турэцкай няволі. З прамовай выступіў Данча Дзімітраў.

### РСДРП

70 гадоў таму назад адбыўся ў Мінску першы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

У сувязі з гэтай знамянальнай датай беларускія газеты змяшчаюць шмат публіцыстычна - гістарычных матэрыялаў. Цэнтральная беларуская газета «Звязда» прысвяціла цэлую старонку гэтай знамянальнай даце, публікуючы вялікі артыкул **«Ля вытокаў партыі»,** напісаны доктарам гістарычных навук І. Ігнаценкам, які з'яўляецца дырэктарам беларускага Інстытута гісторыі партыі.

### ФРАНЦЫІ

**«Госці з Францыі»** — пад такім загалоўкам Беларускае тэлеграфнае агенцтва паведамляе аб пабыўцы ў Беларусі французскай прафсаюзнай дэлегацыі, якую ўзначаліў Генеральны сакратар Усеагульнай канфедэрацыі працы Францыі Жорж Сегі.

Французскія госці наведалі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пабывалі на трактарным заводзе, на мінскай гародніцкай фабрыцы, сустракаліся з прафсаюзным актывам.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Мелі таксама гутарку з кіруючымі работнікамі Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў.

### ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ

У сувязі з пяцідзесяцігоддзем Беларускай Дзяржавы адбываюцца розныя мерапрыемствы, аб якіх падрабязна піша цэнтральны друк. **«Гучыць роднае слова»** — пад такім загалоўкам часопіс «Літаратура і Мастацтва» паведамляе аб мерапрыемствах у Мінску.

### «ЗОННТАГ»

ГДР-аўскі культурна-палітычны тыднёвік «Зоннтаг» змясціў артыкул свайго літаратурнага аглядальніка Т. Н. Брарона пра раман-хроніку Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары».

Аўтар артыкула, м.ін. сцвярджае: **«На вялікі сорам Еўропы і нас, немцаў, да апошняга часу, мабыць, ні адна з літаратур еўрапейскіх народаў не была так мала вядома на Захадзе, як беларуская».** Брарон прапануе выдаць «Віленскіх камунараў» на нямецкай мове. Шырэйшыя ўрыўкі гэтага артыкула перадрукаваны на Беларусі.

### «...ПУШЧА»

«Генерал Пушча» — беларускі фільм, зроблены са старых савецкіх і нямецкіх хронік часоў апошняй вайны. Фільм прысвечаны беларускім партызанам.

## ПОЛЬШЧА

### З'ЕЗД ЖУРНАЛІСТАЎ

15 сакавіка закончыўся VII Краёвы З'езд дэлегатаў Аб'яднання польскіх журналістаў. З'езд выслаў ліст да І Сакратара партыі Уладзіслава Гамулкі, які перадала яму высланая журналістамі дэлегацыя. Апрача таго, З'езд выслаў ліст да журналістаў Дэмакратычнага В'етнама і прыняў пастанову ў справе падтрымкі палітыкі партыі. У пастанове між іншым чытаем:

«Мы, прадстаўнікі польскіх журналістаў, сабраныя на VII З'ездзе ў Варшаве, урачыста заяўляем, што жадаем з усіх сваіх сіл служыць для народа, рабочага класа, Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Нашым абавязкам з'яўляецца пашырэнне ў найшырэйшых кругах грамадства сацыялістычнай свядомасці, набліжання для кожнага паляка перспектывы сацыялізма.»

### ПАДТРЫМКА ПАЛІТЫКІ ПАРТЫІ

У Катавіцах, Познані, Гданьску і ў шмат іншых гарадах краіны, а таксама на шматлікіх прадпрыемствах адбыліся вялікія мітынгі партыйнага актыву і рабочага класа ў знак салідарнасці з партыяй і яе палітыкай.

### ВЯСНА — 68

17 сакавіка адкрыты ў Познані чарговы 21 краёвы кірмаш «Вясна — 68». На кірмашы выстаўшчыкі запрапанавалі тавары на агульную суму 31 мільярдаў злотых.

### ГІСТОРЫЯ

Паявілася ў продажу двухтомная «Гісторыя польскага рабочага руху 1864—1964». Гэта першы такога роду папулярны сінтэз стагоддзя габочага руху ў Польшчы.

### 2800

У Катавіцах закончана пабудова жылога дома, у якім месціцца 2800 жыхараў. Спаўняе ён ролю узорнага спулдзельчага дома з асобнай адміністрацыяй, радай і ўласнай тэхнічна-аварыйнай брыгадай.

### ІНВАЛІДЫ

Спартыўнае аб'яднанне «Старт» супольна з Саюзам спулдзельні інвалідаў займаецца пашыраннем спорту сярод інвалідаў. Што другі год арганізуюцца агульнакраёвыя спартыўныя спаборніцтвы інвалідаў. Прымаюць яны таксама ўдзел у міжнародных спаборніцтвах. У мінулым годзе на міжнародных спаборніцтвах, якія адбыліся ў Англіі, польскія спартсмены - інваліды здабылі 22 залатыя медалі, 7 сярэбраных і 7 бронзавых.

### ЗБОЖЖА

ПГР-ы прадалі ўжо дзяржаве з мінулагодняга ўраджаю 1410 тысяч тон збожжа, выконваючы такім чынам планаваныя заданні на 104 працэнты. Эксперты з Міністэрства сельскай гаспадаркі ацэньваюць, што ПГР-ы павінны яшчэ прадаць дзяржаве некалькі дзесяткаў тысяч тон збожжа — асабліва пасяўнога.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### СЕСІЯ ВРН

Нядаўна адбылася ў Беластоку сесія ВРН, прысвечаная праблемам сельскай гаспадаркі. У сесіі прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства сельскай гаспадаркі і Галоўнага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў. Аб праблемах, якія абмяркоўвалі радныя, у наступным нумары.

### ПАЙШЛО З ДЫМАМ

У мінулым годзе ў выніку пажараў пайшло з дымам на Беласточчыне рознага дабра на суму 46 мільёнаў злотых. Асабліва высокія страты наглядаюцца ў вёсках, дзе кожны пажар у сярэднім каштуе па 100 тыс. зл. У гэтай галіне Беластоцкае ваяводства займае пятае месца ў краіне. Зараз члены супрацьпажарных каманд праводзяць навучанне насельніцтва, як пазбягаць пажараў і як з імі змагацца.

### ЖОНКІ МІЛІЦЫЯНЕРАЎ

Павятовая камендатура МО ў Бельску наладзіла сустрэчу з жонкамі міліцыянераў і ўдовамі па загінуўшых міліцыянерах. У час сустрэчы прынята рэзалюцыя, якая кляйміць амерыканскіх агрэсараў у В'етнаме. Адначасова жанчыны сабралі 500 зл. на фонд пабудовы помніка Цэнтра здароўя дзіцяці.

### СТАЖ У ПГР-АХ

Ваяводская камісія дабраахвотных гуфцаў працы (ОГП) вясною г.г. наладзіць у пяці ПГР-ах курсы, дзе могуць праходзіць стаж выпускнікі школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Курсанты — стажысты атрымаюць бясплатныя кватэры і зарплату за сваю працу.

### ДЗІЦЯЧЫ ТЭАТР

Беластоцкі дзіцячы тэатр «Сверщч» не абмяжоўвае сваёй дзейнасці толькі да горада Беластока. Нядаўна паказаў ён п'есу «Залаты ключык» маладым гледачам Цеханоўца, Чаромухі і Кольна.

### ДЛЯ ЖАНЧЫН

Свята жанчын прайшло ўжо даўно, але пра ўрачыстасць з гэтай нагоды, якая адбылася ў спулдзельні прадукцыйнай у вёсцы Тымянка, Сямяціцкага павета, варта яшчэ ўспомніць. Жанчыны, члены спулдзельні, ўпершыню ўрачыста адзначалі там свае свята. Праўленне спулдзельні купіла ім каштоўныя падарункі і наладзіла ўрачыстую вечарыну, якая зацягнулася да позняй ночы.

### ВЫЛЯСАВАЎ МАТАЦЫКЛ

ВЗГС наладзіў у мінулым годзе конкурсны продаж прамысловых тавараў. Хто ў час ад 1 кастрычніка 1967 года да 31 студзеня г.г. ў краме ГС купіў радыёпрыёмнік, халадзільнік, пральку, матацыкл або іншы таму падобны тавар, мог прыняць удзел у лясаванні каштоўных узнагарод. У выніку лясавання першая ўзнагарода — матацыкл «ВСК» — прыпала селяніну з вёскі Хойны Старыя ў Ломжынскім павеце Пятру Янкоўскаму. Другую ўзнагароду — мотапед «Комар» — атрымала Ірэна Ліпінская са Ставіск у Кольненскім павеце. Разам разлясавана 245 узнагарод.

(вр)




**NIEDZIELA, 24.III.**

9.10 Program dnia. 9.15 TV Kurs Rolniczy: „Nawożenie poplonów". 9.50 „Przypominamy, radzimy". 10.05 „Nieszczęście spadło na miasto" — film fab. radz. 11.15 PKF. 11.25 „Kazimierz Siemianowicz" — film pol. (ikonograficzny). 11.40 Dziennik. 12.05 „Młodość Tomasza Edisona" — film fab. USA. 13.20 Dla dzieci: „Mydlane bańki" — estrada poetycka. 14.05 „Przemiany". 14.35 „Uciekinier" — film. 15.05 Felieton tv Tadeusza Kraśki. 15.15 „Wielka gra". 16.15 „Telewidzenia" — program St. Grodzieńskiej. 17.05 „Ludzie i zdarzenia". 17.20 „Estrada Literacka". 18.10 Felieton literacki. 18.25 „Spotkanie z cieniem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Sofia). 21.00 „Przyjaciółki" — film fab. wł. 22.40 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 25.III.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.20 Teatr Młodego Widza: G. Morcinek — „Czarna Julia". 17.35 TV Magazyn Postępu Technicznego. 18.05 „Spacerkiem po kinach". 18.35 „Życie morza" — film oświatowy radz. 18.50 „Czarne owce w wiernym stadzie" — progr. dok. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: E. Morris: „Drewniany talerz". 21.25 „We dwoje" — program Redakcji Młodzieżowej. 21.55 Dziennik.

**WTOREK, 26.III.**

9.20 „Matka" — film fab. radz. wg M. Gorkiego. 11.00 Dla szkół (kl. IV) „W krainie mazurskich jezior". 11.20 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II) „Jak byś postąpił"? 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Użytkowanie mleczne krów". 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.25 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Szymon i Kubuś (III). 17.20 „Klub pod Smokiem". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 „7 milionów młodych". 18.40 „Giełda piosenki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Matka" — film fab. radz. 21.40 „Sto dni" — program Redakcji Młodzieżowej. 22.05 Dziennik.

**SRODA, 27.III.**

10.00 „Sherlock Holmes" — film. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Stany skupienia ciał". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Chemia — „Woda". 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Z przygodą na Ty" — film. 17.15 „Telekram". 17.25 PKF. 17.35 „Kamień żyje" — film CSRS. 17.45 „Ich dwoje" — film bułg. 18.00 Wszechnica TV. 18.30 „Miroirs" M. Ravela — program muzyczno-baletowy. 19.00 „Safari" — film Tele-Aru. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sherlock Holmes" — film. 20.55 „Światowid". 21.25 Studio 63: Eurypides — „Elektra". 22.15 Dziennik.

**CZWARTEK, 28.III.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski „Poezja XVII wieku". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: „Zwycięstwo pod Wiedniem". 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Ekran z bratkiem". 17.20 Teatr Młodego Widza: K. Siesicka: „Czerwone światło". 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 „Budapeszt — stolica Węgier" — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie"). 18.50 „U pana fotografa" — program rozrywkowo - muzyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gorąca linia" (Katowice — Warszawa). 20.40 Teatr „Kobra": J. Popplewell — „Polisa". 21.45 „Refleksje". 22.15 Dziennik.

**PIĄTEK, 29.III.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Łódka z napędem odrzutowym". 10.30 „Grzeszny anioł" — film fab. radz. 12.00 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.15 Dla młodych widzów: „Rycerz Zawierucha" — film. 17.40 Film. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „Za kierownicą". 18.55 „Ballady i piosenki w wyk. Edmunda Fettinga". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dobry wieczór, jak minął dzień". 20.40 „Z pamiętnika Casanovy" — widowisko muzyczno - baletowe (montaż operowy). 21.45 „10 minut recenzji". 21.55 „Kontakty". 22.25 Dziennik.

**SOBOTA, 30.III.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Norwegia". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Bywają szare, niebieskie lub piwne". 11.25 „Człowiek ze słomy" — film fab. wł. 13.10 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Nawożenie poplonów" 16.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.30 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Bajka o Mrozie Czarodzieju" — film radz. 18.25 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 18.40 „Nina i Fryderyk" — film estradowy duński. 19.00 „Rozmowa o książkach". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „W deszczowy dzień" — film tv ang. 21.00 „Stare nowoczesne rytmy" — program muzyczno - baletowy (Bukareszt). 21.30 Dziennik. 21.45 Wiadomości Sportowe. 22.00 „Człowiek ze słomy" — film fab. wł.




**PIĄTEK, 22 marca**

14.30 „Nowiny". 14.40 Program dnia. 14.45 Język angielski dla przedszkolaków. 15.15 Dla uczniów. 15.45 Film animowany dla dzieci. 16.15 „Eureka". 16.55 „Spotkania z Gorkim". 17.30 Spektakl TV. 18.15 „Nowiny". 18.25 „Na muzycznej fali". 18.30 „Sztafeta nowin". 19.30 „Noc bez noclegu". Film. 20.50 „Szlakami ojców — bohaterów". 21.15 „Tylko fakty".

**SOBOTA, 23 marca**

7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Dla studentów. 10.00 Filmy dla dzieci. 11.20 Kronika filmowa. 11.30 Język angielski dla przedszkolaków. 12.00 „Legenda gór słowackich". 12.30 Człowiek i przyroda. 15.15 Kurier Wiejski. 15.50 „Szkatułka muzyczna". 16.00 „Maksymek". Film. 17.15 Młodzieżowy festiwal sztuki. 18.30 „Czas". 19.10 Klub Filmowy. 20.10 Almanach TV. 21.15 Dziennik. 21.30 Program na jutro. 21.35 Sala tańców.

**NIEDZIELA, 24 marca**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka dla dzieci. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik. 8.00 „30 minut z Gorkim". 8.30 „Prezent Gorkiego". 9.00 „Droga do nauki". 10.00 Otwarcie święta książki dla dzieci. 11.30 „Echo Grenoble". 12.00 Film dla dzieci. 13.30 Dla żołnierzy. 14.00 „Wiedza". 14.30 „Kiosk muzyczny". 15.00 Podróże TV. 15.45 Program muzyczny. 16.45 Opowiadanie Gorkiego „Pepe". 17.30 Koncert. 19.30 „Siedem dni". 20.00 Program rozrywkowy z Sofii. 21.00 „Tylko fakty"

# М. ГОРКІ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Нешта моцна сімвалічнае ў тым, што бацька аднаго з першых беларускіх паэтаў Максіма Багдановіча, Адам, знаходзіўся ў цесных сувязях з Максімам Горкім. Быў жанаты з роднай сястрою жонкі Горкага. Адам Багдановіч, які дасканала ведаў вусную паэтычную творчасць беларускага народа, выклікаў у Максіма Горкага цікавасць да беларускай культуры. Сталася гэта ў апошнія гады XIX ст.**

**Рост беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку XX ст., уздым беларускай літаратуры ў рэвалюцыйныя 1905—1907 гады прыцягвалі да сябе ўвагу вялікага пісьменніка. Ад гэтага часу яго сувязі з беларускай літаратурай безупынку пашыраюцца. Максім Горкі чытае творы Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх паэтаў, уважліва сочыць за развіццём беларускай дэмакратычнай паэзіі, хоча навучыцца беларускай мовы, грунтоўна пазнаёміцца з беларускай музыкай, з навуковымі працамі па беларускай літаратуры. Аб гэтым сведчаць многія пісьмы Максіма Горкага да сяброў і знаёмых.**

**У 1910 годзе Максім Горкі наладжвае кантакт з першай беларускай газетай «Наша ніва». Будучы ў Італіі, на Капры, Горкі атрымоўвае з рэдакцыі «Нашай нівы» не толькі паасобныя нумары гэтай газеты, але таксама кніжкі Янкі Купалы і Якуба Коласа: «Жалейка», «Адвечная песня», «Песні жальбы». Горкі піша ў той час пісьмо да «Нашай нівы» з просьбай прыслаць яму беларускі слоўнік Насовіча, граматыку беларускай мовы, брашуры Доўнар-Запольскага аб Марцінкевічу («Гапон» і «Тарас на Парнасе»), а таксама песню Янкі Купалы «А хто там ідзе?» — з нотамі. Яшчэ перад тым слынны купалаўскі верш «А хто там ідзе?» дэкламаваў Горкаму на Капры адзін з удзельнікаў замежнай экскурсіі расійскіх настаўнікаў А. Пасох.**

**Ад гэтага часу Максім Горкі выкарыстоўваў нават найменшую аказію, каб выступіць у абароне маладой беларускай літаратуры. Гэта шчырая падтрымка вялікага пісьменніка, якога ўжо ведаў увесь свет, мела асаблівае значэнне і карысны беларушчыне шырокі грамадскі водгук. Ворагі беларушчыны пробвалі асмяшыць беларускую мову, стварыць атмасферу пагарды да беларускага руху і накласці кляймо на беларускіх пісьменнікаў.**

**У 1920 годзе Максім Горкі выказаў думку аб тым, што Янка Купала, як і Тарас Шаўчэнка, не з'яўляецца толькі сялянскім паэтам, яго творчасць мае глыбокае народнае, агульнанацыянальнае значэнне. Ён быў першым перакладчыкам Янкі Купалы, пераклаў на рускую мову і апублікаваў яго верш «А хто там ідзе?».**

**Праз дваццаць год пасля, у 1941 годзе Янка Купала так скажа ў сваёй прамове ў час урачыстай акадэміі прысвечанай 35-цігоддзю яго літаратурнай і грамадскай дзейнасці:**

**«У сваім сэрцы я на працягу доўгіх год захоўваю найчысцейшую і бязмежную любоў да вялікага рускага народа і яго геніяльнага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага, які ў тыя змрочныя часы заўважыў маю песню. Глыбока ўсхваляваў мяне тады цёплы водгук Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?».**

**Несумненна, што творчасць Горкага мела і мае вялікі ідэйны і мастацкі ўплыў на беларускую савецкую літаратуру. Яго кніжкі добра вядомы беларускаму чытачу. За час ад 1917 года да 1967 года на Беларусі выдадзена 80 кніжак Максіма Горкага агульным тыражом 796 тысяч экземпляраў, на пяці мовах, у тым ліку на беларускай мове 53 кніжкі. Толькі раман «Маці» выходзіў 9 разоў агульным тыражом 100 тысяч экземпляраў.**

**С. Яновіч**




## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### ДЗЕЦІ ПАЎСТАНЦАЎ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Дзеці апынуліся ў бяспечным месцы. Не пагражалі ім тут жандармы, абаранялі іх горы, апекаваліся імі мужныя паўстанцы.

Аднак не працягвалася гэта доўга. Пасля розных турбот і нявыгад адзін з хлопцаў захварэў.

— Ён тут доўга не вытрымае, — гаварыў заклапочаны стары, высокі партызан з цёмным шрамам на шчацэ. Ён схіліўся над ляжаўшым на пасцелі хлопцам. Лагодным, асцярожным рухам рукі пагладзіў распалены лоб хворага.

— Што рабіць? Аддаць яго ў вёску да людзей? — разважаў другі. — Загіне малы.

— Вядома, — высокі выпрастаўся. — Трэба прасіць дапамогі ў жыхароў Валенсіі. Гэта іх дзеці. Дзеці паўстанцаў.

У гэты момант у зямлянку ўвайшоў старэйшы хлопец. Ён нёс у бляшанцы ваду хвораму брату.

Партызан палажыў яму руку на плячо і глянуў у вочы.

— Трэба з вамі штосьці зрабіць, Энрыка. Твой брат не можа тут застацца.

У чорных вачах хлопца з'явіўся неспакой. Ён хацеў аб нечым спытаць, але паўстанца ўжо не было ў зямлянцы.

* ⁂ *

Глыбокая горная цясніна, гэта бяспечная дарога. Кусты закрываюць, трава прыцішае крокі, а цёплая ноч цёмнымі крыламі прыкрывае людзей, якія нясуць хворага. Уцішы адзываецца голас:

— Ну, хлопча, зараз канец дарогі. Ці будзеш мець сілу ісці раніцай сам?

На насілках паварушылася галава. Вусны ціха прашапталі:

— Буду... Мушу...

У канцы цясніны роўная палянка, на ўскраіне якой булькае непрыкметны ручай. На палянцы, у падножжа горнай сцяны прытаілася хата. У акне маленькі агеньчык — гэта ўмоўны знак. Група людзей падышла з хворым блізка. Лёгкі стук у акно і бясшумна адчыніліся дзверы, людзі зніклі, агеньчык у акне згас. Хата зноў утулілася ў цемнату і цішыню, толькі працякаючы ля яе ручай працягваў далей сваю начную гутарку.

* ⁂ *

Раніцай пад апекаю старога селяніна рушылі зноў у дарогу. Хворы адчуваў сябе лепш. Думка, што яны мусяць дайсці да Валенсіі, дадавала ім сілы. Зрэшты, апекаваўся ім брат, падтрымліваў яго, апекаваліся ім паўстанцы і людзі, якія памагалі паўстанцам.

Нарэшце паказаліся першыя дамы Валенсіі.

— Вуліцамі ісці нам нельга. Яшчэ нас хто пазнае. Ідзём да гэтага дому з высокім парканам. Пачакаем у браме. Абапрыся на мяне, — старэйшы хлопец павёў за сабою брата.

Яшчэ толькі аднапавярховы белы будынак, потым жывая агарожа, а за ёй малы домік. Немаладая ўжо жанчына сыпала курам зярняты, стоячы ля калодзежа. На скрып форткі яна павярнулася. Момант прыглядалася да хлопцаў. Уважна і моўчкі агледзела бледны тварык малодшага. З ледзь прыкметнай усмешкай кіўнула галавою. быццам хацела сказаць: «Усё ведаю».

Праз тыдзень з'явіўся ў шэрым доміку камандзір паўстанцкага атрада. Прывітаўся з хлопцамі, а іх апякунцы ўручыў грошы. Кіўнула галавою. Гэта на ўтрыманне хлопцаў.

Ён не мог аставацца тут доўга. Хутка выдаў паручэнні:

— Будзьце спакойны. Паслязаўтра прыдзе па вас адзін рабочы, ідзіце з ім, яго жонка заапякуецца вамі, потым пойдзеце далей. Нельга вам сядзець на адным месцы, бо могуць вас знайсці.

Узяў малодшага за падбародак.

— Трымайся, брат. Ці ты ведаеш, навошто расцеш і чаму мусіш быць здаровым?

Цёмныя вочы хлопца гнеўна бліснулі:

— Ведаю. Мы мусім адпомсціць за маму...

— За маму і за іншых, якія загінулі так, як яна, і за тое самое, што і яна, — адказаў старэйшы брат.

**Х. Ізкарай**

1. У якой краіне адбываюцца падзеі апісаныя ў апавяданні?
2. Які лёс сустрэў іспанскіх хлопчыкаў і хто ім дапамог?
3. За што змагаўся іспанскі народ?
4. Знайдзіце і выпішыце ў сшыткі радкі, у якіх маці павучае сваіх дзяцей.
5. Які момант у апавяданні вас найбольш усхваляваў?

**Слоўнік**

Франкіст — прыхільнік фашысцкага ўрада генерала Франко ў Іспаніі. У даным выпадку фашысцкія жандармы.



**Выступаюць Раіса Дамброўская і Анна Красоўская. Акампаніруе кіраўнік Дома культуры ў Міхалове Яўгень Фільяновіч.**

## Конкурс на савецкую песню



Ніна Грэсь.

У гэтым годзе адбудзецца VII Агульнапольскі конкурс на савецкую песню. Зараз ужо адбыліся павятовыя агляды. Найлепшыя выканаўцы возьмуць удзел у ваяводскім аглядзе на савецкую песню.

3-га сакавіка ў Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку такі ж конкурс быў арганізаваны аддзелам культуры Прэзідыума ПРН у Беластоку для свайго павета. Глядзельная зала кіно Дома культуры была перапоўнена жыхарамі Гарадка. Паводле правілаў кожны выканаўца ці дуэт абавязаны быў заспяваць дзве савецкія песні на польскай мове і адну на рускай мове. Журы ацэньвала аддзельна паасобныя выступленні і выступленні ў дуэце. У індывідуальным выступленні першае месца заняла Ніна Грэсь з Гарадка, а ў дуэце — Раіса Дамброўская з Ціванюкоў і Анна Красоўская з Пянькоў. Выступалі яны як прадстаўнікі міхалоўскага Дома культуры. На другое месца заквааліфікаваліся: у індывідуальным выступленні Аліцыя Здановіч з Пагарэлак, а ў дуэце — Ядвіга Вок і Аліна Місевіч з Супраслі. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды.

Тэкст і фота: М. Хмялеўскі



Актыў «Лесніка» аглядае пляцёнкі.

## Выстаўка беларускага музея ў гайнаўскім „Лесніку"

Беларускі рэгіянальны музей праводзіць розныя формы папулярызацыі сваіх дасягненняў сярод насельніцтва Гайнаўскага павета. У доме культуры «Ляснік» пры лесапільным заводзе ў Гайнаўцы арганізавана выстаўку экспанатаў музея. На працягу трох тыдняў студзеня і лютага паказвалася 23 экспанаты з галін апрацоўкі зямлі, ткацтва, плецянкарства, ганчарства і рыбалоўства. Працаўнік музея правёў у «Лесніку» спатканне з моладдзю і пазнаёміў яе з прадметамі на выстаўцы, а таксама з працай, дасягненнямі і цяжкасцямі гэтай установы.

Усе, хто пабываў у «Лесніку», захапляліся і цікавіліся культурай і мастацтвам беларусаў. Наведвальнікі выстаўкі з увагай разглядалі прадметы і дыскутавалі на этнаграфічныя праблемы. Дзякуючы выстаўцы ўзрасло зацікаўленне справамі Беларускага музея сярод маладога пакалення Гайнаўкі.

Шкада, што музей не можа ў большым маштабе праводзіць папулярызацыі беларускай этнаграфіі з прычыны цяжкіх умоў, у якіх ён знаходзіцца. І так, напрыклад, калі б кіраўніцтва дома культуры «Ляснік» не абяспечыла транспартам, выстаўка не адбылася б. Улады, адказныя за культуру, Павятовай і Ваяводскай рад нарадовых павінны больш зацікавіцца справамі нашага музея і дапамагчы развязаць цяжкасці. Кіраўніцтва са свайго боку будзе ў меру магчымасці памагаць культурным уладам праводзіць сярод насельніцтва розныя мерапрыемствы, звязаныя з этнаграфічнымі тэмамі.

мгр **Ул. Гацута**

фота аўтара

# У Чорнай Велькай

(Працяг са стар. 1)

— З чаго ў вас найбольшы даход?

— Я сваю гаспадарку наставіў на гадоўлю кароў і свіней. Маю 5 дойных кароў, кантрактую цялят, здаю штогод па 10—11 парсюкоў. У мяне тры каровы пароды «джэрсей». Ад іх маю 3.300—3.600 літраў малака ў год. Разам за малако бяру штомесяц па 2—3 тысячы злотых. За кантрактаваныя ялоўкі па 6—7 тысяч злотых, а за гэтыя ад «джэрсеяк», пародзістыя, — па 9—10 тысяч злотых.

— На што перш за ўсё прызначаеце вы грошы?

— 350 тысяч каштавалі мяне будынкі, каля 100 тысяч аддаў на пакупку сельскагаспадарчых машын і прылад. Вось нядаўна — восенню мінулага года — купіў я снопавязалку і трэба было аддаць 20 тысяч злотых. Без машын я нічога не зрабіў бы, у мяне мала рабочай сілы.

І сапраўды, у аднаго Прыступы машын столькі, як у сельскагаспадарчым гуртку. Толькі не іржавеюць яны пад голым небам.

— Я ахвотна купіў бы невялікі трактар, але, на жаль, не прадаюць, — гаворыць ён. — Карыстаюся тады гуртковскім.

Балеслаў Прыступа быў арганізатарам сельскагаспадарчага гуртка ў Чорнай Велькай. Тры разы выбіралі яго радным, актыўна дзейнічаў у малачарскай спулдзельні.

— Цяпер я гэтыя функцыі перадаў сыну, сам адпачываю, — гаворыць і на развітанне яшчэ дабаўляе: — Але не забудзьце напісаць, што вельмі важнае, каб гаспадары сеялі паплёны. У мяне гектар і чвэрць сенажаці, і без паплёнаў я не змог бы трымаць столькі кароў і свіней.

Значыць, паездка ў Чорную Велькую аказалася карыснай. Не толькі, думаю, для мяне.

**М. Нурэцкі**

# З ГРЭБЯНЁЎ У ГДАНЬСК



Мікалай Сівіцкі абмяркоўвае з працаўніком ГП БГКТ М. Лобачам план дзейнасці гуртка.

Мікалай Сівіцкі, як кожны вясковы хлапец, хадзіў у школу і дапамагаў бацькам на гаспадарцы. Марай яго была вучоба ў якім-небудзь вялікім горадзе, у якім ездзілі б і аўтобусы, і трамваі. І вось, закончыўшы сямікласную пачатковую школу, злажыў прашэнне і патрэбныя дакументы ў тэхнікум будовы караблёў у Гданьску. Паспяхова здаў экзамены і стаў навучэнцам тэхнікума. Не заўважыў ён, калі праляцела 5 год. Мікола атрымаў дыплом тэхніка і пачаў працаваць у Гданьскай суднаверфі. І хаця ён зжыўся тут з людзьмі, пазнаёміўся з многімі землякамі з вёсак Беласточчыны, аднак выкарыстоўвае кожную аказію, каб наведаць бацькоў і родную вёску Грэбяні ў Дуброўскім павеце.

Мікалай Сівіцкі быў адным з ініцыятараў утварэння гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гданьску. Калі прыехаў у Гданьск кіраўнік культурна-асветнага аддзела Галоўнага праўлення БГКТ Мікола Лобач, сабралася беларуская моладзь на арганізацыйны сход. На гэтым сходзе Мікалай Сівіцкі быў выбраны старшынёй гуртка БГКТ.

Зараз ён наведвае партыйныя і адміністрацыйныя ўлады і просіць іх, каб Беларускаму таварыству ў Гданьску прызналі адпаведнае памяшканне да вядзення культурна-асветнай дзейнасці.

Тэкст і фота: **М. Хмялеўскі**




(Працяг са стар. 1)

добрай і новай кніжкай. І тут аказваў дапамогу Прэзідыум ПРН. Міма, што, напрыклад, бюджэт на пакупку кніжак у 1967 годзе прадбачваў толькі 50 тыс. зл, закуплена кніжак на 100.600 зл. дзякуючы дафінансаванню Прэзідыума ПРН. Такім чынам на пакупку кніжак на 100 жыхароў у павеце выдана больш-менш 134 зл. Аднак і гэта поўнасцю не задавальняе перш за ўсё таму, што сярэдняя ваяводская на 100 жыхароў — 248 зл.

Перад бібліятэкамі паўсталі новыя заданні вышэйшай ступені — дапамога ў развіцці сельскай гаспадаркі. Як вышэй было паказана, бібліятэкі аб'ядноўваюць на Бельшчыне найвялікшую колькасць насельніцтва, і таму іх роля ў адукацыі гаспадароў не абыякавая. Зараз усім вядома, што павышаць плёны можна ведамі, а гэтыя веды звязаны з чытаннем сельскагаспадарчай літаратуры. Грамадскі бібліятэкар, ці з бібліятэчнага пункта, павінен умець і мець ахвоту прапагаваць сельскагаспадарчую кніжку. Але паколькі кадра бібліятэкараў тут не ўстабілізаваная, неабходным было б, каб дапамог а нават заініцыяваў гэтую справу аграном, як спецыяліст. **Добра было б, каб аграном як спецыяліст прапанаваў бібліятэкару, якія кніжкі купіць у бібліятэку.** Урэшце бібліятэкару неабходна даць на занятках сельскагаспадарчай падрыхтоўкі хаця 10 мінут, каб разрэкламаваў некаторыя кніжкі. Вельмі слушна падкрэсліў намеснік старшыні Прэзідыума ПРН **інж. Аркадзь Іванчук,** што гаспадары нашы павінны добра гаспадарыць, а каб так гаспадарылі, неабходна ім вучыцца. Каб бібліятэкі маглі магчыма добра выконваць тэтую ролю, павінны мець многа і сучаснай даступнай гаспадару літаратуры. На гэта замалы бюджэт бібліятэкі, але і з гэтага можна выйсці. Дапамагчы бібліятэкам можа «рэсорт рольніцтва», які мае сродкі на т.зв. прапаганду. Могуць таксама свае бібліятэчкі перадаць бібліятэкам аграномы. Адным словам патрэбна скаардынаваная дзейнасць.

Хтосьці на пасяджэнні задаў пытанне аб абсталяванні бібліятэк, канкрэтна гаворачы аб пыласосах. Сярод некаторых гэта выклікала здзіўленне. А чаму ж бы не купіць? Могуць гэта зрабіць ГРН нават з грамадскага фонду. Мне здаецца, што гэта «пахла б» не толькі сучаснасцю, але пыласос мог бы быць нейкім сімвалам пашанавання бібліятэчнай кніжкі, што не з'яўляецца збыякавай справай.

У сувязі з тым, што ў бібліятэках штораз большае запатрабаванне на папулярна-навуковую літаратуру і таму падобную, ці не карысным было б нешта паменшыць пакупку літаратуры белетрыстычнай, каб яе коштам закупіць больш вышэй успомненай?

Неабходна было б таксама рушыць справу, каб устабілізаваць кадравую праблему. Перш за ўсё трэба ясна паставіць справу перад бібліятэкарамі грамадскіх бібліятэк, якіх 50% мае толькі пачатковую адукацыю і толькі 2 з іх завочна павышае свае кваліфікацыі. У гэтым напрамку загады Міністэрства культуры адназначныя.

Шмат цікавых спраў вынікла ў часе дыскусіі. Прэзідыум, дацэньваючы ролю бібліятэк, пастанавіў прыняць адпаведную пастанову, якая нармалізуе многа спраў адносна грамадскай функцыі бібліятэкара і адміністрацыйных спраў.

**А. Карпюк**

# ПРАЦАЁМКАЯ ГАСПАДАРКА

Паўучастка зямлі ў Паўднёвым Востраве (Сакольшчына) мае 8 га. Гэта сярэдняя гаспадарка, якраз такая, якая дае добры даход і сабе, і дзяржаве.

На такой гаспадарцы няцяжка працаваць, калі ў хаце ёсць 4—5 асоб здольных да працы. Але калі дзве асобы, дык работы на такой гаспадарцы ад ночы да ночы.

Гэтак ёсць і ў Анатоля Хмялеўскага з Паўднёвага Вострава. Ён працуе на гаспадарцы толькі са сваёю маці. Але гаспадарыць ён добра. Мае поўны хлеў жывёлы. Прыгожа выглядаюць яго каровы, свінні, авечкі. Ды конь таксама нядрэнны. Толік без прыпражкі арэ зямлю адным канём.



Анатоль выбіраецца на кірмаш у Крынкі.

Тэкст і фота (мх)

# БЕЛАРУСКАЯ ПЛАСЦІНКА

У беластоцкай кнігарні пры вуліцы Сянкевіча 22 можна набыць (за 80 зл.) доўгаіграючую пласцінку з беларускімі песнямі ў выкананні вядомай шырмаўскай капэлы. Разам наіграна на гэтай пласцінцы 16 песень. Між іншымі, «Нёман», «Ліпы старыя», «Шумелі бярозы», «Зімовы вечар», «Сонца, умыйся расою», «Тост», «Плача хмара без жалю», «Дуб» і інш. (ся)

# КУРСЫ

Паасобныя сельскагаспадарчыя гурткі пры дапамозе павятовага праўлення сельскагаспадарчых арганізацый ў Сакольцах арганізуюць шматлікія курсы. Так, напрыклад, у мінулым годзе адбыліся курсы кройкі і шыцця для жанчын у Гуранах, Паўднёвым Востраве і Шацілах. А вось зусім нядаўна ў Паўднёвым Востраве адбыўся кулінарны курс варэння і пячэння. (мх)



У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

# Слёзы за страчаным раем

Паморшчаныя, знішчаныя жыццём жаночыя твары, вочы ўтопленыя ў пажоўклыя тэксты кірыліцы, круг святла вакол газавай лямпы або звычайнай васковай свечкі, і панурая цемрадзь навокал і голас — плачлівы, стогнучы спеў:

**«О рай мой прекрасный**
**Светлый как Эдем**
**І как я был шчаслів**
**Обітая в нем».**

Вобраз са Спаса на Грабарцы, або марознага вечара ва ўбогай сялянскай хаце, вобраз, які пахне старынной і прастадушнай сялянскай набожнасцю.

Ці адчулі вы калі смак гэтых слёз над Адамавай стратай, над беспаваротна страчаным раем? Плач трывае тысячы гадоў, праявіўся ў тысячы розных формаў, стаўся адным з асноўных матываў чалавечай культуры, літаратуры і мастацтва. Прастадушлівыя сялянкі свой плач за страчаным раем выяўляюць у простай, непасрэднай і даслоўнай форме.

Вяртаемся туды да сказання біблейскай кнігі Генезіс аб першым чалавеку Адаме і яго вельмі дзіўным злачынстве — спажыцці пладоў з дрэва пазнання дабра і зла, аб спакусе пазнання і аб граху пазнання, аб граху ведаў пра свет і чалавека. У Адамавай гісторыі крыецца сакрэт чалавечай велічы і трагедыі чалавечай, метафара ўсяго чалавечага лёсу. Сам Бог перапалохаўся Адамавай велічы пасля ўкушэння праз яго плада з дрэва пазнання. Бог заявіў: вось стаўся цяпер Адам як адзін з нас — разумеючы дабро і зло, выгнаць яго трэба з раю, а то пасягне руку сваю і на плады з дрэва жыцця і будзе есці, і станецца несмяротны на векі.

Так і сталася. Археолагі далічыліся, што біблейская дата выгнання з раю Адама супадае з археалагічнай датай пераходу на тэрыторыі Палесціны першабытных «дзікіх» плямён да пастаяннай сельскай гаспадаркі, з датай прымянення ўпершыню ў вялікіх размерах асягнутых чалавекам ведаў, ведаў аб тым, што для яго добрае, а што дрэннае, з першай практычнай спробай рацыяналізацыі чалавечага жыцця.

Бо чым жа ўласціва ёсць міфічны рай — вяршыня шчасця і роскашы, якую толькі можа ўявіць сабе наш сучаснік. Запытайма тэолагаў. Пашукайма ў тоўстых кнігах пасненняў людзей, якія страцілі ўсё жыццё над разборам тэкстаў Святога пісання. Знаходзім паясненні дзіўныя і нечаканыя, хаця зусім лагічныя. Рай, аказваецца, гэта такі больш-менш стан чалавечай душы, які характэрны нашым маленьствам. Кожны з нас, аказваецца тады, мае ўжо рай за сабою, быў ён для нас тады, калі ўглядаючыся на каляровы мячык, які каціўся па падлозе, адчувалі мы вяршыню шчасця, калі кожны новы колер, новы блеск, новы рух быў эрзацам радасці, калі не ведалі мы нічога аб тым, што ёсць на свеце дабро ды зло, нічога не саромеліся, нічым не турбаваліся, не ведалі нават аб сваім уласным існаванні могучы ў кожны момант стацца часткай акружаючых нас прадметаў: вясёлага мячыка, колеру і блеску — самай істотай замкнутай ва ўсім магчымай сілы роскашы-блескам, колерам, рухам.

Знаўцы часам дадаюць, што людзі першабытнай грамадскасці і старой традыцыйнай вёскі адышлі параўнальна недалёка ад гэтай дзіцячай райскасці. Няма аднак ужо традыцыйнай вёскі і першабытнай грамадскасці, няма і нашага райскага дзяцінства. Выбілі нам яго хутка з галавы нашыя настаўнікі, навучыўшы разумець свет, дабро ды зло, і нашыя бацькі, распераза́ўшы дзягу ды навучыўшы нас паводзіць сябе разумна і з сэнсам.

Асталіся тады толькі ўспаміны ды плач. Плакаў вялікі польскі паэт Леапольд Стаф, калі пісаў кніжку сваіх вершаў, якой даў загаловак «Страчаны рай». Плачуць у сваёй творчасці цэлыя атрады менш слаўных паэтаў і кандыдатаў у паэты. Усе яны ведаюць смак дзяцінства, а некаторыя да таго ведаюць пах роднай вёскі. Адчуваюць яго перш за ўсё паэты-беларусы — пах спецыфічны, непаўторны. Людзі лысыя, жанатыя, з грамадскай рангаю паводзяць сябе як дзеці апісваючы бясконца бязгрэшнае, наіўнае каханне, неіснуючыя пастушкі, адышоўшыя ў нябыт краявіды. Ды не толькі апісваюць. Адкрыта вялікія вартасці дзіцячага рысунку, а многія мастакі пачалі рысаваць на ўзор дзяцей, імкнучыся такім чынам ушчыпнуць сабе крышынку з дзіцячага свету наіўнасці і непасрэднасці.

А ці ведаеце, чым апошнім часам займаецца сусветнай славы пісьменнік Альдо Гакслей. Прапагуе мэскалін. Мэскалін — гэта наркотык, які лекары выкарыстоўваюць для выклікання ў доследных мэтах страшэннай псіхічнай хваробы— шызафрэніі. Гакслей паспрабаваў выпіць мэскалін і сцвердзіў, што ў прыступе шаленства чалавек адчувае незямную, неасягальную інакш, роскаш поўнага ўз'еднання з прыродаю, затраты ўласнай асабовасці. Гакслей напісаў ужо дзве кніжкі, у якіх расказвае ўсяму свету аб перажытай ім райскай роскашы. Пісьменнік перакананы, што масы людзей, якія не могуць

# Гаспадары-аграномы

Каб добра гаспадарыць, каб мець высокія ўраджаі на палях і вялікую карысць у жывёлагадоўлі, патрэбныя веды, патрэбна сельскагаспадарчая адукацыя.

Гэтую адукацыю намагаюцца атрымаць перш за ўсё маладыя людзі, якія абымаюць па старых бацьках кіраўніцтва гаспадаркай. Яны, закончыўшы пачатковую школу, вучацца ў вясковых школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, а пасля ў завочных сельскагаспадарчых тэхнікумах. З грамады Новаберазова 10 асоб ездзіць на кансультацыі ў Беласток і здаваць экзамены ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Дайлідах. Вось напрыклад, Аляксандр Бірылка з Новаберазова ўжо трэці год вучыцца ў завочным тэхнікуме. За два гады будзе ён мець дыплом агранома. Жыве ён і гаспадарыць зараз супольна са сваімі бацькамі.

Бірылкі залічаюцца ў вёсцы да самых перадавых гаспадароў. Гаспадарка іх складаецца з 12 га зямельных угоддзяў. Кожны год большая частка гаспадаркі знаходзіцца пад закантрактаванымі сельскагаспадарчымі культурамі: у 1967 годзе у Бірылкаў было закантрактавана 2 га бульбы, 2 га рапаку і 2 га травы. Кантрактацыя гарантуе ім высокія цэны за кожны цэнтнер сельскагаспадарчых культур.

Бірылкі выкарыстоўваюць многа мінеральных угнаенняў. Да ўсіх прац намагаюцца выкарыстоўваць сельскагаспадарчую тэхніку. (мх)

# Далейшыя патрэбы

Меліярацыйны аб'ект «Багна Філіпы» ў Бельскім павеце, які паложаны ў даліне ракі Нарва, быў меліяраваны і загаспадараваны ў 1959—63 гадах (абшар 1269 гектараў). Аказваецца, што патрабуе ён далейшых і неадкладных інвестыцый, каб магчы служыць далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі.

Тое, што было зроблена, запэўніла жывёлаводам дастатковую колькасць высакаякаснага сена. Сталася яно падставай корму жывёлы, а прадукцыя малака і таварнасць жывёлы на многа павялічылася. Але апрача прадукцыі малака асноўным кірункам развіцця раёна, ахопленага меліярацыяй, на мяса. У сувязі з гэтым далейшы кошт інвестыцый меліярацыйных і спадарожнічаючых ім асягне на «Багне Філіпы» далейшых 70 мільёнаў злотых. (ак)

неяк аднайсці ў свеце свайго шчасця, маглі б без цяжкасцей купіць яго на рацэпт у аптэцы ў форме невялікіх таблетак. Патрэбны на гэта толькі дазвол на прадукаванне і распаўсюджванне наркотыкаў.

Масы не знаходзячых шчасця, асабліва маладых людзей, не чакаюць дазволаў і распараджэнняў. У найбольш прамысловай краіне свету — Злучаных Штатах дзесяткі ці нават сотні тысяч маладых людзей пакідаюць камфортныя ўмовы жыцця, усялякія сэнсавыя дзеянні, пакідаюць свет цывілізацыі. Сыны прадпрыемцаў босыя і абдзёртыя цягаюцца тысячамі па краіне, шукаючы ўцёкаў ад зрацыяналізаванага свету ў дзіцячых гульнях і спажыванні яшчэ больш грозных ад гакслееўскай мэскаліны наркотыкаў. Гэта так званыя гіпэнсы — новы фенамен нашых часоў.

Сказанае складаецца на своеасаблівую кінакарціну. Назавем яе так: страх чалавека перад тым, што нясе з сабою рацыяналізм поглядаў і рацыяналізм жыцця. Першым і апошнім кадрам гэтай кінакарціны будзе вобраз беларускіх жанчын спяваўшых сваю тужлівую песню аб страчаным раі. Спеў гэты супадае з астатковым заняпадам традыцыйнай, дарацыянальнай вёскі. Спеў гэты ў пэўным сэнсе прарочы, а перш за ўсё гэта вобраз — сімвал. Апісаўшы яго ўнікліва можна апісаць турботы хвалюючыя людзей у рознай ступені на ўсіх кантынентах зямлі.

Рыгор Паўлюк

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ДУБРОЎШЧЫНА

Каб паспяхова выканаць пастановы IX Пленума ЦК ПАРП адносна павышэння сельскагаспадарчай вытворчасці, дуброўская сельскагаспадарчая служба правяла дакладны аналіз усіх грамад, усіх вёсак дзеля таго, каб ведаць, як дзе гаспадараць, як трэба памагаць у гэтым напрамку і якія вынікі сваёй працы маюць паасобныя вёскі.

Агульна вядома, што на Дуброўшчыне нізкія ўраджаі, што замала яшчэ гаспадары выкарыстоўваюць сельскагаспадарчую навуку, замала карыстаюць з парад спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Вось таму згодна з пастановамі партыі ў кожную грамаду накіраваны аграном, якога галоўнае заданне — так працаваць, каб усе вёскі, усе гаспадары мелі большыя ўраджаі. З гэтай мэтай будуюцца таксама агранамоўкі. У мінулым годзе аддадзены ў карыстанне агранамоўкі ў Няроснай і Ліпску.

Павятовыя ўлады вялікі націск кладуць на павелічэнне машынатрактарнага парку і на будову рамонтных баз, якімі з'яўляюцца ПОМ-ы. У гэтым павеце налічваецца ўжо 135 трактарных камплектаў. Ды сеўнікаў ужо шмат. Налічваецца іх 366 і дойдзе ў гэтым годзе яшчэ 250 штук. Калі ўзяць пад увагу тое, што на Дуброўшчыне налічваецца 103 сельгасгурткі (вёсак у павеце 140), дык лік машын ужо даволі вялікі. Але машыны падчас працы псуюцца. Дробны рамонт іх будзе праводзіцца ў кавальска-слёсарскіх пунктах сельскагаспадарчых гурткоў, а большы рамонт — у ПОМ-е ў Дуброве і яго філіі Сухаволі. У Сухаволі філія ПОМ-у нядаўна пабудавана (каштавала яна 4 мільёны зл). Абсталявана ў самыя навейшыя прылады і рамонтныя машыны.

Незадоўга закончыцца будова новага памяшкання для ПОМ-у ў Дуброве, якое таксама будзе дасканала прыстасаванае да патрэб гэтай установы.

Ужо незадоўга сельскагаспадарчыя гурткі не будуць чакаць на рамонт трактараў ці іншых машын па некалькі месяцаў.



Ля млына ў Дуброве.

Але калі разыходзіцца аб сельгасгурткі — тут вырашаюць людзі, іх праца, іх сумленнасць і ў многіх выпадках арганізацыйныя здольнасці. Арганізацыйная «жылка» неабходная перш за ўсё дыспазітарам. Бо менавіта мозгам гуртка і з'яўляецца дыспазітар. Ад яго залежыць належнае выкарыстанне ўсіх сельскагаспадарчых машын.

Тут прывядзем адзін прыклад. Сельскагаспадарчы гурток у Ліпску ад пачатку свайго існавання працаваў на «стратах». За 1965 год гурток меў пры трох трактарных камплектах 38 тысяч дэфіцыту. Павятовыя ўлады дадалі яшчэ тры трактарныя камплекты, змянілі там дыспазітара і на гэту пасаду паставілі добрага арганізатара, якім з'яўляецца Станіслаў Севесцяновіч. За адзін год працы пад яго кіраўніцтвам на кожны трактар выпала ў 1966 годзе больш як па 1000 працагадзін, а чыстага даходу сельскагаспадарчы гурток атрымаў 116 тысяч злотых. У мінулым годзе пры васьмі трактарных камплектах выпала на кожнага трактарыста 960 працагадзін, а чыстага даходу — 80 тыс. зл.

Вынікі гэтыя вельмі ж добрыя. Яны значна перавышаюць у гэтай галіне сярэднія павятовыя лікі, якія выглядаюць наступна: 670 працагадзін на адзін трактар. Амаль усе сельскагаспадарчыя гурткі не дабіліся даходаў і маюць адмоўны баланс.

Як бачым, добрыя кадры ў сельскагаспадарчых гуртках адыгрываюць галоўную ролю ў іх развіцці.

Сельскагаспадарчая служба Дуброўшчыны намагаецца працаваць так, каб пастановы партыі адносна павышэння сельскагаспадарчай вытворчасці выконваліся паспяхова.

Тэкст і фота М. Хмялеўскі




## РЭВАЛЮЦЫЙНЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў 1905—1907 ГАДАХ

*(Заканчэнне тэмы. Пачатак у папярэднім нумары)*

Калі ў снежні рабочыя Масквы пад кіраўніцтвам РСДРП прыступілі да ўзброенай барацьбы супроць царскага самадзяржаўя, чыгуначнікі і рабочыя Мінска, Оршы, Гомеля, Пінска, Баранавіч, Гродна, Віцебска падтрымалі сваіх маскоўскіх таварышаў палітычнай стачкай. У Мінску кіраваў стачкай рабочы савет. Царскія ўлады ўвялі ў горадзе і Мінскай губерні надзвычайнае палажэнне. Пачаліся масавыя арышты рабочых, але стачка працягвалася і пагражала перарасці ва ўзброенае паўстанне. Толькі з-за здрады дробнабуржуазных партый барацьба мінскіх працоўных была спынена.

Хоць у снежні рэвалюцыйны рух у Беларусі і не перайшоў ва ўзброенае паўстанне, аднак ён палітычнымі стачкамі, стварэннем баявых дружын, затрымкай цягнікоў з войскам нёс дзейсную дапамогу рабочым Масквы і гэтым даў выраз свае інтэрнацыянальнай еднасці і пралетарскай салідарнасці з рабочым рухам ва ўсёй Расійскай дзяржаве.

Пасля спынення снежаньскай стачкі рэвалюцыйны рабочы рух у Беларусі пайшоў на спад.

Працяглая і рашучая барацьба рабочых пабуджальна ўздзейнічала на ўзмацненне і пашырэнне сялянскага руху. У часе рэвалюцыі беларускія сяляне грамілі панскія маёнткі, захоплівалі землі памешчыкаў, секлі лес, пасвілі жывёлу на панскіх лугах. На Магілёўшчыне і Гродзеншчыне сялянскія выступленні набылі ўзброены характар. Толькі пры дапамозе войска царскім уладам удалося задушыць яго. Прычынай слабасці сялянскага руху была яго неарганізаванасць, стыхійнасць і адсутнасць трывалай еднасці з рабочым рухам.

Нарастанне рэвалюцыйнага руху і рэвалюцыя 1905—1907 гадоў спрыяльна ўздзейнічала на разбуджэнне нацыянальнай свядомасці і культурнага руху ў Беларусі. У асяроддзі маладых беларускіх вучоных і студэнтаў пад кіраўніцтвам прафесара Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу паўстае навуковы гурток, які займаецца вывучэннем роднага краю, яго гісторыі, культуры і гаспадаркі. Узнікаюць выдавецкія суполкі, якія друкуюць і распаўсюджваюць творы беларускіх пісьменнікаў. У многіх гарадах Беларусі засноўваюцца драматычныя гурткі, гурткі беларускай народнай песні і танца.

У 1906 годзе пачынае выходзіць першая легальная беларуская газета «Наша доля». Яна мела рэвалюцыйны характар і таму ў хуткім часе была закрыта царскімі ўладамі. Пасля закрыцця «Нашай долі» пачынае выходзіць газета «Наша ніва». Вакол «Нашай нівы» гуртуецца беларуская творчая інтэлігенцыя. У ёй змяшчаюць свае творы актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі Цішка Гартны (Змітрок Жылуновіч), Цётка (Алаіза Пашкевіч), Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч) На старонках«Нашай нівы» запачаткавалі свой творчы шлях таленавітыя беларускія паэты Янка Купала (Іван Луцэвіч), Максім Багдановіч і шэраг іншых паэтаў і празаікаў.

Цётка і Колас апрацоўваюць першыя беларускія школьныя падручнікі. Тэатральны гурток Ігната Буйніцкага ператвараецца ў прафесіянальны беларускі тэатр. Кампазітары У. Равінскі і М. Чуркін пішуць першыя нацыянальныя беларускія музычныя творы і апрацоўваюць мноства беларускіх народных песень. Выдатны мастак У. Бялыніцкі-Біруля, які паходзіў з Беларусі, стварае шмат дасканалых палоцен, сваёй творчасцю ўздзейнічае на маладое пакаленне беларускіх мастакоў.

Хоць рэвалюцыя 1905—1907 гадоў і пацярпела паражэнне, аднак яна мела дабратворны ўплыў на згуртаванасць і далейшае развіццё рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Яна спрыяльна садзейнічала далейшаму развіццю беларускай асветы, літаратуры і культуры.

### *ПЫТАННІ І ЗАДАННІ*

*1. Якія змены адбыліся ў гаспадарцы Беларусі на пачатку XX стагоддзя?*

*2. Якую ролю адыграла РСДРП і ленінская «Іскра» ў падрыхтоўцы рэвалюцыі?*

*3. Раскажыце аб падзеях рэвалюцыі 1905—1907 гадоў у Беларусі.*

*4. Які ўплыў мела рэвалюцыя на развіццё беларускай навукі, літаратуры і культуры?*

*5. Раскажыце аб ролі, якую адыграла ў развіцці беларускай літаратуры газета «Наша ніва».*

*6. Якое значэнне для Беларусі мела рэвалюцыя 1905—1907 гадоў?*

 

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### ЗША крадуць вучоных

Расшыраючы з года ў год фронт навуковых даследванняў, ЗША адчуваюць усё ўзрастаючую патрэбу ў спецыялістах высокай кваліфікацыі. Між тым, колькасць маладых амерыканцаў, якія выбіраюць навуковую кар'еру, пастаянна змяншаецца.

Амерыканскія манаполіі ўжо даўно ўсвядомілі значэнне гэтай малапрыемнай для ЗША з'явы і зрабілі належныя вывады. Яны арганізавалі на шырокую нагу пірацкую дзейнасць у Еўропе і адкрылі там сапраўдны рынак па перакупцы «таленавітых вучоных». У 1963 годзе было заснавана і працвітае да гэтага часу акцыянернае таварыства «Кэрыэз інкарпарэйтэд», якое займаецца наборам спецыялістаў для навукі і індустрыі заходнееўрапейскіх вучоных, якія згадзіліся пакінуць сваю радзіму. Недахоп сродкаў не дазваляе многім краінам Заходняй Еўропы выкарыстаць патэнцыяльныя магчымасці большасці даследчыкаў, стварыць неабходныя для іх работы ўмовы. Але ўцёкі інтэлігенцыі, натуральна, спусташаюць заходнееўрапейскія краіны ў духоўных адносінах. Вялікабрытанія, у якой амерыканская «пятая калона» ў прамысловасці і навуцы з'яўляецца вельмі ўнушальнай сілай, у большай ступені, чым любая іншая заходнееўрапейская дзяржава, адчувае нядобрыя вынікі «цечкі мазгоў».

Францыя складае сёння выключэнне з агульнага правіла. Адтуль штогод эмігруе не больш чым сто вучоных і спецыялістаў. Буру абурэння і пратэстаў выклікаў прыезд у Парыж у снежні мінулага года прэзідэнта таварыства «Кэрыэз інкарпарэйтэд» з цэлым штатам супрацоўнікаў. Французскі міністр па навуковых даследваннях Марыс Шуман у студзеньскім нумары часопіса «С'яно э ві» падкрэсліў, што французскія вучоныя «пакуль яшчэ не прадаюцца».

Новы від амерыканскага бізнесу, пераступіўшы цераз заходнееўрапейскія граніцы, ператварыўся ў сапраўдны біч для краін, якія развіваюцца. Яны губляюць падрыхтаваныя цаной вялікіх намаганняў нацыянальныя кадры. Згодна са статыстыкай, якую праводзіць французскі часопіс «С'янс э авенір», Індыя страціла за апошнія гады 8.000 маладых даследчыкаў, Аргенціна — 5.000.

Працэс пераманьвання вучоных з-за рубяжа ўзведзен у ранг афіцыяльнай дзяржаўнай палітыкі Вашынгтона.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### ПІРОГ НА ДРАЖДЖАХ

Развядзіце ў шклянцы падагрэтага малака паўтары сталовыя лыжкі дрожджаў, дадайце 4,5 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 4 сталовыя лыжкі цукру, 1—2 яйкі, 1/2 чайнай лыжачкі солі, старанна разатрыце, усыпце 3 шклянкі мукі, добра вымесіце і на 40—50 мінут пастаўце цеста ў цяпло для падымання, зноў выбіце і зноў пастаўце ў цяпло на 25—30 мінут. З гатовага цеста раскачайце 2 пласты, адзін пакладзіце на змазаную халодным маслам бляху або патэльню, пакладзіце начынку, закрыйце другім пластом, зашчыкніце краі, змажце яйкам і выпякайце на сярэднім агні ў духоўцы.

Для начынкі нарэжце на дробныя кавалачкі 500 грамаў рэвеню, змяшайце са злёгку збітым яйкам, 100 грамамі смятаны, 100 грамамі цукру, дадайце па смаку лімонную цэдру або ванілін.

Пасыпце гатовы пірог цукровай пудрай.

## У ГАДАВІНУ СМЕРЦІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

## ПІСЬМО Ў „НІВУ"

На ўскраю Мінска, на былой сядзібе саўгаса «Зялёны Луг» за апошнія 2—3 гады вырас прыгожы сучасны гарадок, які ўпрыгожыў уезд у беларускую сталіцу з боку Лагойскай шашы. Галоўная вуліца мікрараёна з гонарам носіць імя слаўнага сына беларускай зямлі — вядомага беларускага рэвалюцыянера XIX ст. Кастуся Каліноўскага. На гэтай вуліцы і я жыву. Задумаў стварыць на грамадскіх пачатках мемарыяльны музей Каліноўскага на сваёй вуліцы. Я вось ужо больш двух год збіраю матэрыялы, — кніжкі, часопісы, газеты, машынапісныя копіі дакументаў, фотаэкспанаты, рэпрадукцыі з твораў беларускіх і літоўскіх мастакоў, эскізы дэкарацый, гравюры, якія расказваюць аб кароткім, але поўным гераізму жыцці гэтага чалавека з легенды.

Збор матэрыялаў пачаўся пасля шчырай гутаркі з маладым беларускім пісьменнікам Анатолем Клышка, які мяне натхнуў на гэты нялёгкі шлях. Першыя тры экспанаты я атрымаў ад навуковага супрацоўніка Інстытута беларускай літаратуры Акадэміі навук БССР Адама Мальдзіса, які падарыў партрэты саратнікаў К. Каліноўскага: Валерыя Врублеўскага, Браніслава Шварцэ і здымак універсітэцкіх будынкаў у Вільні, у сценах якіх у 1863 годзе хаваўся Кастусь пад прозвішчам Вітажэнец. Гэта была апошняя яго кватэра.

Віленскі гісторык-пісьменнік Генадзь Кісялёў даслаў мне фотапартрэт Кастуся Каліноўскага і яго саратнікаў: Зыгмунта Сераkоўскага, Тытуса Далеўскага, Антанаса Мацкявічуса, Яраслава Дамброўскага, Андрэя Патэбні, Людвіка Звяждоўскага, фотакопіі сямі нумароў «Мужыцкай праўды», фотаздымкі гістарычных месц Вільні, звязаныя з рэвалюцыйным жыццём Кастуся: будынак Дамініканскага кляштара-турмы, дзе знаходзіўся К. Каліноўскі; Лукішская плошча, дзе быў павешаны Ён. Зараз гэта плошча імя Леніна.

Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР Сусана Байкава падарыла для музея машынапісныя копіі дакументаў аб Кастусю. Сярод іх: першы, другі, трэці і сёмы нумары «Мужыцкай праўды», «Рапарт прыстава 2 стана Слонімскага у. Агацina гродзенскаму губернатару І. В. Галеру аб распаўсюджванні К. С. Каліноўскім «Мужыцкай праўды», «Заключэнне часовага палявога аўдытарыята», «Аб правядзенні ў гор. Вільня казні над палітычным злачынцам Каліноўскім» і іншыя дакументы, якія дапамагаюць нам лепш уявіць тагачасную сітуацыю на Беларусі, лепш палюбіць мужнага змагара за шчасце народнае. Пазаштатны фотакарэспандэнт часопіса «Беларусь» Ілья Берлін адгукнуўся на маю просьбу і падарыў 4 фотарэпрадукцыі з твораў беларускіх мастакоў. Сярод іх: партрэты Кастуся Каліноўскага, увекавечаныя ў скульптуры народнымі мастакамі БССР С. Селіканавым і З. Азгурам, а таксама фотарэпрадукцыя з карціны «Кастусь Каліноўскі» А. Гуталя і Р. Кудрэвіч. Віленскі мастак Пятро Сяргіевіч у сваіх жывапісных творах услаўляе подзвігі сялян гераічнага паўстання 1863 года. Мастак даслаў мне тры фотарэпрадукцыі. У 1959 годзе П. Сяргіевіч стварыў гістарычнае палатно «Кастусь Каліноўскі і Валеры Врублеўскі аглядаюць паўстанцаў у 1863 годзе».

Літоўскія гісторыкі, апрача шматлікіх іншых матэрыялаў даслалі мне цікавыя здымкі. Напрыклад: кватэра ўдавы паэта У. Сыракомлі — месца канспірацыйных сходак Кастуся Каліноўскага і яго сяброў, будынак на вуліцы Савічаус у Вільнюсе — кватэра Баневіч — месца канспірацыйных сходак Каліноўскага і сяброў, «Гатэль Нішкоўскага» ў Вільні — месца сустрэч кіраўнікоў паўстання, пляцоўка на гары Гедыміна — месца пахавання Кастуся Каліноўскага і іншых правадыроў паўстання. Ленінградскі Дзяржаўны гістарычны архіў таксама адгукнуўся на маю просьбу і даслаў 19 фотаздымкаў, якія расказваюць аб цяжкім студэнцкім жыцці маладога Каліноўскага, калі Кастусь вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце на юрыдычным факультэце.

Ёсць у маёй калекцыі і фотаздымкі радзімы Кастуся Каліноўскага. Іх мне даслалі супрацоўнікі Свіслацкага райкома КПБ і рэдакцыі газеты «Заветы Ильича». Сярод іх Свіслацкая прагімназія, якую семнаццацігадовым юнаком Кастусь скончыў, і захаваўшаяся алея ў былым маёнтку бацькі Кастуся, на тэрыторыі якога знаходзіцца калгас імя Кастуся Каліноўскага, інтэр'ер яе мемарыяльнага музея славутага земляка ды іншыя фотаматэрыялы.

Мой калега і сябра малады мастак Мікалай Назарчук напісаў жывапісны партрэт Кастуся Каліноўскага для мемарыяльнага музея.

Праект кінатэатра на вуліцы Кастуся Каліноўскага закончаны, хутка пачнецца будаўніцтва і збудуцца мае мары. У кінатэатры будзе мемарыяльны музей Кастуся Каліноўскага, а магчыма і кінатэатру будзе прысвоена Яго імя.

**Дзімітр Маслаў, мастак.** Мінск

**Ад рэдакцыі:** Дзякуючы Д. Маславу ствараецца цікавы музей, у якім ужо шмат матэрыялаў пра Кастуся Каліноўскага з розных краін, у тым ліку і з Польшчы. Нешта падобнае павінна ўзнікнуць і ў нас, скажам, у Гарадоцкім Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага або ў школе Яго імя ў родных Яму Мастаўлянах, Беластоцкага павета.

## САБАКА З ПЕРАСАДЖАНЫМІ ЛЕГКІМІ



Ужо больш года жыве сабака «Цыган» з перасаджанымі лёгкімі. Аперацыю правялі работнікі лабараторыі Цэнтральнага інстытута доследаў над туберкулёзам у СССР, якія займаюцца праблемай перасадкі ўнутраных органаў. Калектыў вучоных пад кіраўніцтвам прафесара **Мікалая Герасіменкі і Міхаіла Авербаха** развязаў ужо шмат вельмі складаных і цяжкіх праблем.

Зразумела, эксперымент не закончыўся самай перасадкай лёгкіх. Работнікі ўспомненай лабараторыі вядуць доследы, мэтай якіх — акрэсленне ўдзелу перасаджанага органа ў фізіялагічных дзеяннях усяго арганізма. Новыя лёгкія сабакі «Цыгана» дзейнічаюць нармальна.

На здымку: хірург Генрык Ляціс, які правёў цяжкую аперацыю перасадкі лёгкіх з «Цыганом». (А-ка)

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



**Мінскі завод халадзільнікаў вырабляе ў год звыш ста тысяч халадзільнікаў. Пашырэнне вытворчых плошчаў дазваляе заводу да канца пяцігодкі (1966—1970 гг) давясці выпуск халадзільнікаў да паўмільёна ў год.**




Высокі худы адмірал чытае ўголас паперу, якую трымае ў руках. Злева і справа ад яго — афіцэры. Яны стаяць як на аглядзе. Тры афіцэры — гэта ваенны суд. Карцава аддзяляе ад іх стол, накрыты зялёным сукном. Ёсць і чацвёрты член суда — той самы элегантны лейтэнант Бархольм, што ўдзельнічаў у першым допыце Карцава і кінуўся за Абстам. Цяпер ён выконвае абавязкі сакратара. Ён сядзіць за столікам, які паставілі для яго ў куце.

Тут жа прысутнічае матрос Джаб, яшчэ адзін канваір ды двое маёраў. Усё гэта адбываецца на борце лінкора, у салоне, дзе тыдзень назад самаўпэўнены капітан-лейтэнант наладзіў вочную стаўку Карцаву і Абсту. З тых пор Карцаў не бачыў гэтага афіцэра: допыт вялі чыны марской контрразведкі. Карцаў спрачаўся, тлумачыў. Але старшы следчы, пажылы чалавек у чыне маёра, быў непахісны.

— Я гавару праўду, я савецкі марак.

— Мне яшчэ не здаралася бачыць савецкіх маракоў, якія татуіравалі б на сваёй скуры нямецкія імя ды яшчэ лацінскімі літарамі.

—Я ўсё выттлумачыў.

— Прыдумалі, хочаце сказаць!

— Вытлумачыў.

— А гэта як вытлумачыце?

Карцаву паказалі радыёграму. Аказваецца, яны радзіравалі на мацярык, а адтуль быў зроблены запыт у Маскву. І вось адказ: камандванне Савецкага Ваенна-Марскога Флоту пацвярджае гібель карабля названага класа з усім экіпажам такога-та дня, у такім-та квадраце. Пацверджана і прозвішча лекара. А ў заключэнні сказана: «На левай руцэ капітана медыцынскай службы Кірыла Карцава татуіроўкі не было».

— Ні ў штабе флоту, ні нават у штабе злучэння, у якое ўваходзіў мой карабель, не маглі ведаць аб татуіроўцы.

— Хто ж ведаў?

— Члены карабля, на якім я праходзіў службу.

— Людзі «вашага» карабля, якія цяпер мёртвыя? — Следчы не скрывае насмешкі. — Вы маеце рацыю, гэта дасканалыя сведкі.

Такая была апошняя размова са следчым. Яна адбылася ўчора. А сёння Карцава судзяць. Дакладней, ужо судзілі, бо цяпер чытаюць прыгавор.

Канваір Джаб кладзе руку на плячо Карцаву, падбародкам паказвае на суддзяў. Ён тлумачыць: прыгавор прачытаны, цяпер трэба выслухаць яго другі раз, у нямецкім перакладзе.

Карцаў механічна ківае. Ён рассеяны. У галаве сумбур. Штосьці цісне на сэрца, у грудзях з'яўляецца боль. І ўсё, што яму хочацца, гэта пайсці адсюль, вярнуцца ў сваю жалезную кануру, дзе ён, прынамсі, будзе адзін.

Раптам перакладчык і трое суддзяў, на якіх глядзіць Карцаў, расплываюцца ў вялікую пляму. Яна дрыжыць, нахіляецца...

З дапамогай Джаба ён устае на ногі. І хоць чытанне прыгавора працягваецца, ён амаль нічога не чуе. У яго галава разломліваецца ад болю.

Вось перакладчык апусціў паперу, зняў акуляры.

— Зразумелі ўсё? — пытаецца ён.

Карцаў маўчыць.

— Вас прыгаварылі да смерці! Як лазутчык і дыверсант, вы будзеце пакараны смерцю. Згодна з уставам, вырак ваеннага суда абскарджанню не падлягае.

Карцаў паварочваецца і памалу ідзе да дзвярэй. Прапусціўшы яго, канваіры ідуць следам.

Ён выходзіць на палубу.

Прасторная бухта зззяе ў праменнях яркага паўднёвага сонца. Вада нерухома, уціснутыя ў яе цяжкія целы караблей — таксама. А на гарызонце адзінокая канічная скала. Дзіўна, што Карцаў не прыкмеціў яе. А плыў жа міма. Калі б спыніўся там на гадзінку, усё магло быць інакш...

Схіляецца да гарызонта сонца. Яшчэ крыху — і яно пакіне сіняе неба, каб утапіцца ў сіняй густой вадзе. І сонца, і мора, і неба тыя самыя, што і ў дзень, калі ён выратаваўся з гінуўшай лодкі. Але тады ў сэрцы Карцава жыла надзея. Так, побач плыла акула. Але ён быў свабодны, ён змагаўся! Ён перамог яе! І ён бяссільны перад людзьмі. Выратавацца з фашысцкага палону, пазбегнуць зубоў акулы, — для таго толькі, каб цябе забілі саюзнікі!..

Думкі марудна варочаюцца ў галаве. Карцаў нерухома стаіць ля борта. Яму



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ЖЫВЕМ КУЛЬТУРНЕЙ

У вёсцы Кленікі налічваецца больш 1000 жыхароў. Ёсць у нас многа моладзі. І жывецца нам даволі добра, даволі культурна. Знікае п'янства, хуліганства і суды. Моладзь жыве згодна і не падзелена, як гэта было ў мінулым, на тры варожыя групы: моладзі з Загаці, Клябаншчыны і Конца. Так называюцца з даўна часткі вёскі. У мінулым не было адыходу моладзі ў горад, яе было надта многа. На музыкі не магла яна ўся змясціцца. І гэта, між іншым, прычынілася да нязгоды. Таму часта здаралася, што ў вёсцы дзве забавы, або кожная «дзяльніца» вёскі арганізавала толькі і выключна для «сваёй» моладзі. Зусім стала іначай, калі школа перанеслася ў новапабудаваны выгодны будынак. Стары школьны будынак пры дапамозе ГС-у ў Нарве прыстасаваны да патрэб святліцы. У ім зараз клуб-кавярня і бібліятэка. Дзякуючы добрай працы рады клуба, якую ўзначальвае Сцяпан Кот, установа гэта мае ўсё патрэбнае абсталяванне разам з тэлевізарам, які можна ўключыць таксама і на савецкія тэлеперадачы. У клубе ўсе захоўваюцца культурна.

Зараз няма нязгоды ў вёсцы. Адышла яна назаўсёды ў мінулае.

«Сокал»
Кленікі

### КАМЕННЕ

Камень — гэта таксама багацце нашай Беласточчыны. На палях вёскі Патока яго вельмі многа. У Патоцы 45% агульнай колькасці хлявоў пабудаваных з каменя. Кожны год мясцовыя жыхары прадаюць некалькі тысяч кубічных метраў беручы па 130 зл. за кожны метр. На жаль, амаль усё гэтае каменне купляе Гайнаўскі павет. Толькі малую частку купіў Беластоцкі павет і вывез у Тыкацін і Васількова. А каменне патрэбнае і тут. Усе дарогі з Патокі да суседніх вёсак такія дрэнныя, што вясной і восенню можна «ўтапіцца». Чамусьці нашыя ўлады не дбаюць, каб зрабіць перш дарогу ў Патоцы, і не ламаць машын, якія вывозяць адсюль каменне. Напэўна возьмуцца за работу тады, як зусім камення не будзе, як вывезуць яго ў іншыя паветы. Магчыма, што тады прыдзецца купляць у Ломжы і Кольне і адтуль прывозіць на будову дарог у раёне вёскі Патока.

**Мікола Краўчук**
Патока

### ЗЛЕЎНЯ І СКЛАД

У 1968 годзе ў Новым Востраве (Сакольскі павет) будзе пабудавана злеўня малака і склад на мінеральныя ўгнаенні. Зараз па мінеральныя ўгнаенні трэба ехаць у Крынкі або Саколку. Калі будзе пабудаваны і аддадзены ў карыстанне склад на мінеральныя ўгнаенні ў Новым Востраве — гэта палегчыць гаспадарам давоз іх на свае палі, а таксама трэба будзе менш траціць часу, якога ў сялян няма замнога. (мх)

---

не перашкаджаюць. Але канваір побач, ён адчувае іх затылкам, спіною...

Ззаду працягваецца рука Джаба. Паміж указальным і вялікім пальцам з жоўтымі абгрызенымі пазногцямі заціснутая сігарэта, апошнія трымаюць запальнічку. Карцаў бярэ сігарэту. Пальцы Джаба рухаюцца, запальнічка ляскае, і Карцаў прыкурвае.

Пасля першых зацяжак кружыцца галава. Але гэта хутка пераходзіць.

І зноў глядзіць ён на далёкую канічную скалу. Чаму так прыцягвае да сябе гэты камень? У яго моры, ля ўвахода ў родную бухту, таксама высіцца адзінокая гарбатая выспа...

Сігарэта дакурана. Так хочацца яшчэ! Павярнуўшыся, ён глядзіць на Джаба. Той моўчкі працягвае пачку.

Карцаў бярэ сігарэту, размякчае ў пальцах і... застывае, схіліўшыся да запальнічкі, якую паднёс Джаб. Ён бачыць: на палубе ляжыць невялікае долата — інструмент закаціўся ў шпігат і ледзь прыкметны.

У наступныя секунды Карцаў дзейнічае аўтаматычна. Пальцы расціскаюцца, і сігарэта падае. Нахіліўшыся, ён падымае яе. Другая рука, быццам для апоры, лягае на палубу ля шпігата, так што долата аказваецца пад далоняй...

**(Працяг будзе)**

### ГРАМАДА МІЛЕЙЧЫЦЫ

Грамада Мілейчыцы адміністрацыйна падзелена на 14 салэцтваў. Жыве ў іх каля 3950 чалавек. Мілейчыцы маюць цікавае мінулае. Ад 1515 да 1919 года Мілейчыцы былі на правах горада. Тут прыгожы сасновы лес. Да 1939 года была ў ім туберкулёзная санаторыя са шматлікімі дачамі. Прамысловых прадпрыемстваў тут няма, калі не лічыць дзвюх кафлярняў у Мілейчыцах і бровару ў Паканеве. Зараз паменшылася значэнне Мілейчыц. Налічваецца тут каля паўтары тысячы жыхароў. Аб гарадскіх правах пакуль што не прыходзіцца нават марыць.

**М. Вішанка**
Мілейчыцы

### НЕ ЎДАЛОСЯ

4 лютага г.г. у Кузаве адбываліся два вяселлі. Вечарам у мясцовым клубе «Рух» была забава, на якую прыйшло шмат людзей. На ёй былі таксама Васіль Казімірук і Алесь Пракапюк з Елянкі (Гайнаўскі павет), якія пасля забавы ўкралі... крэсла. Некалькі дзён пасля забавы Яўгенія Раманчук — гаспадар клуба «Рух» у Кузаве зглецзела, што не хапае аднаго крэсла. Аб гэтым паведаміла пастарунак міліцыі ў Чаромусе. Міліцыянеры на працягу некалькіх дзён зладзеяў адшукалі. У час рэвізіі ў хаце Васіля Казімірука была знойдзена мяккая падушка з кузаўскага крэсла, на якой Алесь Пракапюк са сваім сябрам шылі саламяныя каробкі. У час следства Алесь Пракапюк і Васіль Казімірук прызналіся да пакражы. Справа гэта ў бліжэйшым часе знойдзецца ў карна-адміністрацыйнай калегіі ў Гайнаўцы.

Кактус




**Дарагое Сэрцайка!**

Хачу параіцца ў цябе, Сэрцайка, бо не ведаю, як паступіць. Два гады таму назад я сябраваў з дзяўчынай з маёй вёскі. Насця мне падабалася, і цяпер падабаецца. Я хацеў тады з ёю жаніцца, але Насця сказала, што яшчэ замаладая (19 год) і каб пачакаць яшчэ год ці два. Мне гэта не спадабалася і я рашыў, што перастану сустракацца з ёю. І так сталася. Паўгода таму мае бацькі пачалі прымушаць мяне жаніцца з Гэляй з суседняй вёскі. Насці мае бацькі не хацелі, гаворачы, што яна забедная. А Гэля ў пасаг уносіць дом. Паехаў я ў райкі, і мы дагаварыліся аб вяселлі. Але ад таго часу мінула ўжо паўгода. а я і не паказаўся ў Гэлі. Бацькі Гэлі прыязджаюць час ад часу да маіх і пытаюцца, як з вяселлем. А я збунтаваўся. Сказаў бацькам, што не ажанюся з Гэляй, бо кахаю Насцю. Сваркі было нямала, аднак бацькі мае вымушаны былі пагадзіцца з маім пастанаўленнем. Вяселля не будзе. Мы адказалі. Цяпер я ізноў хацеў бы пагадзіцца з Насцяй. Яна хіба таксама. Прынамсі мне так здаецца. Пару разоў я падыходзіў да яе на забаве, танцаваў, адводзіў нават дамоў, аднак яна адносіцца да мяне якасьці холадна, непрыхільна. А я хацеў бы з ёю ажаніцца, ужо ж прайшло 2 гады, як мы з ёю гаварылі аб жаніцьбе. Але як ёй гэта сказаць? А што будзе, калі яна адмовіць? Парай.

Коля з Сакольшчыны

**Дарагі Коля!**

Яна мела рацыю, што не хацела выходзіць замуж вельмі рана. Аднак ты зрабіў нетактоўнасць. Бо пашто ж табе было ехаць у райкі да Гэлі, калі і так ведаў, што з ёю не ажэнішся, што нават бацькі не змогуць цябе прымусіць. Гэта ж вёска, і напэўна твае райкі ў іншай дзяўчыны не былі прыемнымі весткамі для Насці. Цяпер пастарайся перапрасіць Настку, скажы ёй усё адкрыта. Калі Настка кахае цябе, напэўна ўсё выбачыць і ўжо нічога не будзе на перашкодзе да вашай жаніцьбы.

Жадаю ўсяго вам найлепшага.
Сэрцайка

### ПАЖАР

Ноччу з 11-га на 12-га лютага гэтага года з бліжэй невядомых прычын у вёсцы Ласіняны Сакольскага павета выбух пажар. Пажар пачаўся з клуні Яраша, жыхара вёскі Ласіняны. Потым агонь перанёсся на дзве суседнія клуні. Нягледзячы на завеяную снегам дарогу, на дапамогу прыбылі каманды пажарнікаў з Коматаўцаў і Азяран. Азяранская і коматаўская каманды працавалі добра, а ў ласінянскай сапсавалася мотапомпа. З коматаўскай каманды пажарнікаў найбольш ахвярнасці праявілі: Е. Яраш і А. Шапель, якія дзельна змагаліся пры гашэнні пажару. Словы ўдзячнасці належацца таксама Мікалаю Папельніцкаму, які абслугоўваў мотапомпу коматаўскай пажарнай каманды. Мотапомпа яго працавала беззаганна, без перарываў. Дзякуючы ахвярнай дапамозе жыхароў вёскі і пажарнікаў, агонь не пайшоў далей. Згарэла толькі тры клуні.

Сатурн
Беластоцкі павет

### СУСТРЭЧА З САВЕЦКІМ АФІЦЭРАМ



**Эстрадны калектыў тэхнікума.**

З нагоды 50-ай гадавіны ўтварэння Савецкай Арміі на Бельшчыне адбыліся сустрэчы з афіцэрам Савецкай Арміі І. Селігененкам. Адно з такіх спатканняў адбылося з моладдзю эканамічнага тэхнікума ў Бельску Падляшскім. На гэтае спатканне прыбыў пасол на Сейм Ян Рызнар і прадстаўнікі мясцовых улад.

Пасля цікавага выступлення таварыша Селігененкі эстрадны калектыў тэхнікума выканаў некалькі савецкіх салдацкіх песень.

Тэкст і фота
Яўгенія Зінкевіча
Бельск-Падляшскі

### БАЛЯЧКА ПАРЦАВА

У вёсцы Парцава, якая налічвае 120 гаспадароў, няма дзе правесці вольнага часу. У вёсцы вельмі патрэбная святліца.

Некалькі год таму жыхары нашай вёскі пастанавілі пабудаваць святліцу чынам. Зрабілі фундамент, пустакі, аднак святліцы не пабудавалі.

У вёсцы вельмі многа моладзі. Толькі хлопцаў больш, чым 30. Зімой няма дзе зрабіць забавы. Летам забавы адбываюцца на вольным паветры. У нашай вёсцы існуюць такія арганізацыі, як ЛьЗС, БГКТ, СВМ, аднак не могуць яны супольна дагаварыцца і дзейнічаць так, каб як найхутчэй будова святліцы шырока разгарнулася. Вечарамі ў суботу і нядзелю хлопцы ходзяць па вёсцы і шукаюць вольнай хаты, дзе можна было б пайграць у карты. Калі хто-небудзь пазволіць сабрацца ў сваёй хаце, тады сыходзяцца туды ўсе і старэйшыя, і малодшыя, так што часам няма дзе сесці. І таму не вельмі проста знайсці хату, дзе можна правесці вечар.

Справай святліцы ў Парцаве павінны зацікавіцца ўлады і пры дапамозе моладзі (хлопцы з вялікай ахвотай памаглі б пры будове святліцы) можна было б святліцу пабудаваць. Бо чаму будуюцца святліцы ў тых вёсках, дзе мала моладзі, а ў нас не?

Чытач з Парцава

### З ГУРАНАЎ



**Пакуль што гуранская пошта знаходзіцца ў прыватным памяшканні.**

# КІНО

**Праграма на 26—31.III.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„BS-38-15" (NRF), 26—27. „Mętna woda" (węgierski), 28—29. „Marysia i Napoleon" (polski), 30—31.

**Дубіны**

„Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 30—31.

**Нараўка**

„Teresa Desgueraux" (franc.), „Porucznik jazdy" (radz.), 27—31.

**Нарва**

„Zwariowana noc" (polski), „Szesnasta wiosna" (radz.), 27—31.

**Чыжы**

„Kochankowie z Marony" (polski), „Znowu Max Linder" (franc.), 27—31.

**Дубічы Царкоўныя**

„Mroźny poranek" (radz.), „Złodziej samochodów" (radz.), 30—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), „Złodziej samochodów" (radz.), 27—31.

**Орля**

„Złoto" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 27—31.

**Райск**

„Bicz Boży" (polski), „Znowu Max Linder" (angl.), 27—31.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Mętna woda" (węgierski), „Marysia i Napoleon" (polski), 26—29.

**Міхалова**

„Na pomoc" (angl.), 26—27. „Człowiek bez paszportu" (radziecki), 28—29. „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 30—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Wojna trwa" (włoski), „Czterej pancerni i pies" (polski), 26—31.

**Шудзялава**

„Człowiek z karabinem" (radz.), „Grymasy" (węgierski), 26— 31.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 27—31.

**Новы Двор**

„Grunt to zdrowie" (franc.), 30—31.

**Ліпск**

„Wystrzał" (polski), „Bicz Boży" (polski), 30—31.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7725

# ДА КАСТРУЛЬКІ

Пару гадоў у Ганулькі па вяселлі не было дзяцей. Ігнат драпаў патыліцу, што не будзе наследнікаў, але нічога не гаварыў. Што толькі Гануля не рабіла. І маладую канюшыну парыла ды піла, і замаўляла. Але не было ніякага рэзультату. Парадзіла ёй адна старэнькая бабуля... І пянясла Гануля да Грабаркі ўкопваць крыж. Мусі памагло, бо ад тае пары дзеці пасыпаліся, як боб. Адно за другім. І зноў Ігнат дзярэ галаву, бо хата зачынае цесна рабіцца... І Ганулька ў страху, бо, як то гавораць, што рок, то прарок.

— Хоць ты ідзі на Грабарку і адкопвай крыж...

— Ой не, мая міленькая, не рабі ты гэтага, — параіла ёй бабуля. — Бо ўсе дзеткі паўміраюць.

А ў Ігната кроў не вада... Рабі хрысціны за хрысцінамі. І хутка ўжо ў вёсцы кумоў забракуе...

— А каб так вы звярнуліся за парадаю да Парадні свядомага мацярынства? — параіла адна маладзіца.

Для Ігната два разы гаварыць не трэба. Запрог каня, Ганулю ў гароншыны і паехалі!

У Парадні свядомага мацярынства прыняў іх ветліва малады дохтар. Але Ганулька засаромелася, бо як жа такому маладому гаварыць аб такіх рэчах...

Ігнат, пераступаючы з нагі на нагу, пачаў тлумачыць аб што ходзіць.

Кемлівы дохтар папрасіў іх сесці. І пачаў вучыць тэхніцы сужыцця...

Але Ігнат махнуў рукою: — Мы гэтую тэхніку ведаем. Вы скажыце, як не агранічыць?..

— А вось я вам прыпішу глябулькі, купіце ў кожнай аптэцы. Ужываць толькі перад сном...

Выйшаўшы на двор, адразу загаварыла Гануля: — А я так баялася!

— А чаго ж тут баяцца, прыпісаў глябулькі і ўсё...

— А каму ён іх прыпісаў, табе ці мне? — спытала Гануля.

— От якая ты, сядзела, бы сава і слухала. Ну ясна што глябулькі мне! — сказаў Ігнат.

Увечары перад сном укінула Ганулька глябульку ў каструльку. Ігнат высмажыў ўсю воду аж да дна і пашлі смела спаць.

Цераз паўгода ўпасла Ганулька Ігната на глябульках, але і папраўлялася сама...

А праз якісь час рассыпалася. Ігнат ускіпеў злосцю. Замест падумаць аб кумах, сеў вярхом на каня і паехаў да Парадні свядомага мацярынства лаяць дохтара...

Цётка Мальвіна



## АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

Фатальны час настаў. Асуджанага астрыглі. Святар, адвакат, пракурор стаяць каля яго. Пракурор пытаецца:

— Ці жадаеце вы чаго-небудзь? Можа, шклянку рому?

— Не, дзякую.

— Цыгарэту?

— Не.

— Існуе звычай выканаць апошняе жаданне асуджанага. Чаго вы хочаце?

— Я хацеў бы вывучыць англійскую мову.

## ДАГАВАРЫЛІСЯ

Шэф: Ведаеце, я патрабую ад падначаленага добрага ведання пунктуацыі.

Служачы: Будзьце спакойны, шэф, я заўсёды прыходжу ў час.



— Скажыце, гэта на самай справе сур'ёзна?

## МОЖА

У садзе адзін вар'ят прагульваецца, трымаючы ў руках вялікі аркуш белай паперы і глядзячы на яго з вялікай увагай.

Праходзіць другі вар'ят, глядзіць на яго і пытаецца:

— Што ты тут робіш?

— Ты ж бачыш сам, я чытаю газету.

— Так, але ж на ёй нічога не напісана.

— Вось іменна. Таму я магу чытаць тое, што хачу.

## СКАСАВАННЕ ШЛЮБУ



Адвакат памёр.

## У ГАЛАВЕ І Ў КІШЭНІ

Як стаў Амелька піць,
Адкуль такое ліха? —
У галаве шуміць, шуміць,
У кішэнях — ціха, ціха.

М. Скрыпка

## НЕ ПАЗНАЎ

Маладая амерыканка, былая студэнтка Гарвардскага універсітэта, сустрэла прафесара, лекцыі якога калісьці наведвала і які славіўся сваёй рассеянасцю. Яна яго спыніла і, убачыўшы, што прафесар яе не пазнае, сказала:

— Вы не пазнаеце мяне, дарагі мэтр? А вы ж калісьці прасілі мяне стаць вашай жонкай.

— Так, — нечакана ажывіўшыся, зацікаўлена спытаў прафесар:

— Ну, і як вы ёю сталі?

## ПАТРАБУЕ

Жанчына абвінавачваецца ў спробе атруціць мужа. Муж, якога паспелі выратаваць, паправіўся і прысутнічае на судзе.

— Што вы можаце сказаць у сваё апраўданне? — пытаецца старшыня ў абвінавачанай.

— Я не вінавата! Я патрабую ўскрыцця!

## АДНО ПЫТАННЕ

— Разумееце, мой знаёмы на мінулым тыдні, пазяхаючы, звіхнуў сабе сківіцу?

— Што ж вы яму такое нецікавае расказалі?

## УСЁ РОЎНА

Малады студэнт напісаў сваім бацькам пісьмо і папрасіў у іх 300 злотых звыш штомесячнай сумы. Да пісьма ён дадаў post-scriptum: «У апошні момант я вельмі шкадаваў аб сваёй просьбе. Я пабег за паштальёнам, але, на жаль, не змог яго дагнаць і забраць пісьмо».

Праз некалькі дзён ён атрымлівае кароткі адказ: «Не хвалюйся сын. І не перажывай, што не дагнаў паштальёна. Усё роўна мы не атрымалі твайго пісьма».

## ЯНА ДУМАЛА

Адна багатая парыжанка, якая хацела купіць ложак, спынілася перад адным вялікім ложкам.

— Цудоўны ложак! — усклікнула яна.

Прадавец падбег да яе, паціраючы рукі, і хутка сказаў:

— О, мадам! Гэта гістарычны ложак. У гэтым ложку спалі Людовік XIV, Людовік XV, Людовік XVI.

Маладая жанчына вылупіла вочы і, павярнуўшыся да свайго прыяцеля, сказала здзіўлена:

— Божа, як цікава. А я думала, што ўжо такія высокапастаўленыя асобы маглі дазволіць сабе прыемнасць спаць у асобным ложку.

## У ПАНА

— Іван, дзе пісьмо, якое я пакінуў на стале?

— Я кінуў яго ў паштовую скрынку, пане.

— Але ж яно без адраса!

— Але я меркаваў, што пан зрабіў гэта спецыяльна для таго, каб я не ведаў, каму ён піша.

## РЭГЛАМЕНТ СКОНЧЫЎСЯ

У аратара пытаюць:

— Чаму вы крытыкавалі толькі «іншых таварышаў»?

— Ды я ахвотна закончыў бы сваё выступленне самакрытыкай, але рэгламент скончыўся.



Усё людское нам не чужое.





Дзеля спакойнай ночы.

# Што за хлопец, што за дзяўчына

(Беларуская народная песня)

Што за хлопец, што за дзяўчына
Ў поле пад вечар выходзяць
І, прытуліўшысь там каля млына,
Ночкі спакойна праводзяць. (2)

Яна ўцякае з бацькавай хаты,
Хлопец з зялёнага гаю.
Дзяўчына з вёскі, Гэляй завецца,
Хлопца як завуць — не знаю. (2)

Ён ёй штосьць шэпча, быццам кахае,
Нібы любую дзяўчыну,
І кожны раз ёй ўсё паўтарае:
— Міла, не плач, не пакіну! (2)

Мілая Гэля, мая кахана,
Ты мне за ўсё даражэйша,
Тут каля млына сон нас не зморыць,
Ночка для нас дня яснейша (2)

Дзяўчына рада, жмецца, цалуе
І пры ім усё забывае:
Дома ніколі ўжо не начуе,
Дома спакою не мае... (2)

Месяц за хмары ўжо захіліўся,
Зоркі ўсе пахаваліся.
Толькі ля млына свет запаліўся, —
Вочы дзяўчыны смяяліся. (2)






Загарніце...

Тэхаскі мільянер Алгір Мідаус, калекцыянер карцін, выявіў, што ён стаў ахвярай буйнага махлярства, якое нанесла яму страты на суму звыш аднаго мільёна долараў. 44 з 58 палотнаў, якія ён купіў у парыжскага гандляра карцінамі, аказаліся фальшывымі, хоць і былі прададзены яму як арыгінальныя палотны Мадзільяні, Дзюфі, Дэга, Шагала, Банара, Дарэна.

Турма ў крэдыт



Прымяняючы да правасуддзя камерцыйны лозунг: «Спачатку купіце, заплоціце потым», міністр юстыцыі заходнегерманскай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія аб'явіў, што ўсе прыгавораныя да адбыцця турэмнага зняволення не звыш 3-х месяцаў, адбудуць яго ў некаторым родзе «ў крэдыт». Справа ў тым, што ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія адчуваецца востры недахоп месц у турмах, а тыя, што ёсць, запоўнены цалкам.

(Карыкатурыст «Юманітэ», які пракаменціраваў нататку, суправадзіў свой малюнак подпісам, які можна перакласці прыкладна так: «Хто апошні? Я за вамі»).




Начальнік будаўнічага ўпраўлення чуйна прыслухоўваўся да крытыкі знізу — паверхам ніжэй знаходзілася кіраўніцтва трэста.